

Янаўскія ткачыхі → 5


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




У Заблудаў → 9


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (3025) Год LIX | Беласток, 4 мая 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


## Напярэдадні III З'езда выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя

# Сантымент да школы вялікі

**Размова з Яўгенам Сачко, дырэктарам Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і Анатолем Ахрыцюком, старшынёй управы аргкамітэта III З'езда выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя, былым бургамістрам Гайнаўкі.**

— Дзейнасць Гайнаўскага белліцэя лічыцца з 1949 года, калі была створана адукацыйная ўстанова «Падставовая школа і Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы». II з'езд выпускнікоў адбыўся ў 2000 годзе, калі адзначаўся юбілей 50-годдзя дзейнасці школы. Хто выступіў з ідэяй III З'езда, прымеркаванага да 65-годдзя школы?

**Анатоль Ахрыцюк** — Мы, выпускнікі, ужо здаўна гаварылі, што добра было б наладзіць чарговы з'езд, спаткацца і паразмаўляць. Дырэктар Яўген Сачко з ахвотай прыняў нашу ініцыятыву і мы вырашылі сарганізаваць трэці з'езд напрыканцы гэтага школьнага года.

**Яўген Сачко** — Прапановы арганізаваць з'езд паяўляліся здаўна. Анатоль Ахрыцюк, які арганізаваў папярэднія з'езды, выступіў з афіцыйнай прапановай наладзіць III З'езд выпускнікоў нашага белліцэя і завязаўся аргкамітэт з'езда.



Яўген Сачко



Анатоль Ахрыцюк

фота Аляксея МАРОЗА

— Ці многа выпускнікоў белліцэя ахвотных арганізаваць з'езд?

**Анатоль Ахрыцюк** — У аргкамітэт з'езда ўвайшло каля 25 асоб, з чаго 6 чалавек мы выбралі ў прэзідыум камітэта. Гэта тыя асобы, што ладзілі папярэднія з'езды, і малодшыя.

— Афіцыйная частка з'езда пачнецца 31 мая, у дзесяць гадзін, у спартыўнай зале белліцэя. Што прапануеце яго ўдзельнікам пасля галоўнай урачыстасці?

**Яўген Сачко** — Пасля афіцыйнай урачыстасці прадбачаем сустрэчы выпускнікоў з паасобных гадоў з іх выхавацелямі. Будуць супольныя здымкі. Запросім сабраных на абед. Вечарам будуць гульні з пачастункам, а ў нядзелю, 1 чэрвеня, паедзем на Тапіла, дзе адбудзецца чарговая супольная сустрэча.

**Анатоль Ахрыцюк** — Спецыяльна пад з'езд выдаем спеўнік з песнямі, якія спяваліся тады, калі мы былі вучнямі. Будзем ім карыстацца падчас гульняў, пабыўкі на Тапіле, падчас падарожжа.

— Першыя выпускнікі белліцэя пакінулі школу ў 1953 годзе. Ці сярод удзельнікаў з'езда будуць асобы, якія закончылі адукацыю ў пяцідзесятых гадах?

**Анатоль Ахрыцюк** — Такія асобы ёсць. Сярод першых выпускнікоў быў Аляксей Харкевіч, пазнейшы настаўнік белліцэя, які ангажуецца ў арганізацыю з'ездаў. На з'езд збіраецца таксама асобы, якія жывуць далёка ад Гайнаўкі, напрыклад, Юрка Нікіцюк з Аўстраліі.

— Малодшыя выпускнікі часцей трымаюць сувязь паміж сабой. Ведаю, што адны другіх заахвочваюць прыняць удзел у з'ездзе.

**Анатоль Ахрыцюк** — Малодшыя асобы таксама будуць. Прадбачаем, што спаткаюцца выпускнікі, якія закончылі белліцэй у 1953-2003 гадах. Аднак, калі ад вучобы ў школе пройдзе больш гадоў, тады з'яўляецца больш успамінаў і роздумаў і мы больш ахвотныя ўдзельнічаць у з'ездах выпускнікоў, сустрэцца з аднакласнікамі.

— Вы вучыліся ў белліцэі. Якія ўспаміны засталіся ў вас ад вучобы ў школе?

**Анатоль Ахрыцюк** — Сантымент да школы застаўся вялікі. У ліцэі была незабыўная атмасфера, працавалі незабыўныя настаўнікі. Памятаю імёны і прозвішчы ўсіх педагогаў. Маім выхавацелем быў настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі. Мы былі першым класам, якім ён апекаваўся, калі прыйшоў на працу ў белліцэй. Я рады, што Гайнаўскі белліцэй — адна з лепшых агульнаадукацыйных школ у нашым ваяводстве, што здабыў прызнанне ў нашым асяроддзі. На гэта дырэктар і настаўнікі мусілі моцна папрацаваць.

**Яўген Сачко** — Калі я вучыўся ў белліцэі, таксама была вельмі добрая атмасфера, былі добрыя адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі. Можа на гэта мела ўплыў тое, што мы наогул лічылі сябе беларусамі і дома размаўлялі на беларускай гаворцы. Засталіся ў мяне вельмі добрыя ўспаміны. Многаму я тут навучыўся. Маім класным выхавацелем была Параскева Рушук, якая надалей падтрымлівае сувязь з нашай школай. У іншых школах ужо такой атмасферы не было. Зараз многа настаўнікаў нашай школы гэта асобы, якія вучыліся ў нашым белліцэі ў сямідзесятых, васьмідзесятых, ці дзевяностых гадах.

— Ці зараз атмасфера ў белліцэі падобная да той з мінулага?

**Яўген Сачко** — Зараз атмасфера ў нашай школе таксама добрая, адчуваецца сувязь паміж вучнямі і настаўнікамі. Аднак калі ліцэй перасяліўся ў новы будынак, здадзены ў карыстанне ў 1993 годзе, мы пачалі прымаць вучняў у чатыры-пяць паралельных класаў, а пазней дайшлі яшчэ белгімназісты. У такой вялікай школе часткова страціўся індывідуальны кантакт вучня з настаўнікам. Калі я вучыўся, тады былі па два паралельныя класы і ў старым драўляным будынку былі камерныя ўмовы навучання. На вучобу ў белліцэй у новым будынку сталі мы прымаць нават па 150-160 вучняў і таму страцілася камернасць, але затое намнога палепшыліся ўмовы навучання.

— Задума ўзвядзення новага будынка паўстала яшчэ ў сямідзесятых гадах, але трэба было чакаць яе рэалізацыі ажно да дзевяностых гадоў.

**Яўген Сачко** — Яшчэ дырэктар Аляксандр Іванюк хадайнічаў за пабудову новага будынка, але рашэнне ўлад усё адтэрміноўвалася. Спрыяльны час для такой ініцыятывы з'явіўся ажно ў дзевяностых гадах. Калі я стаў дырэктарам белліцэя, сродкі на будову школьнага будынка былі ўжо прызначаны і ў чэрвені 1992 года распачалася інвестыцыя, якая закончылася ў верасні 1993 года. Грошы прыйшлі з Міністэрства адукацыі, якім кіраваў тады Анджэй Стэльмахоўскі. Разумеў ён праблемы нацыянальных меншасцей, бо моцна ангажаваўся ў дапамогу палякам у замежжы, між іншым у Беларусі. За атрыманне сродкаў таксама хадайнічаў Анатоль Ахрыцюк. Ён таксама ангажаваўся ў рэалізацыю інвестыцыі бельскім будаўнічым прадпрыемствам, якое завяршыла будову практычна на працягу года.

— Пасля была ўзведзена спартыўная зала, а цяпер можам карыстацца крытым басейнам, які пераходам спалучаны з белліцэем.

**Яўген Сачко** — Спачатку сказалі нам у Міністэрстве адукацыі, што пасля рэалізацыі такой вялікай інвестыцыі, як пабудова школьнага будынка, сродкаў на будову спартыўнай залы прыйдзецца пачакаць. Аднак з дапамогай прыйшоў амбасадар Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько, які паспяхова ўспамог наша хадайніцтва ў справе спартыўнай залы. Затое будова крытага басейна гэта ўжо гарадская інвестыцыя. Мы, аднак, мусілі хадайнічаць, каб інвестыцыя засталася на першапачаткова планаваным месцы, побач нашай спартыўнай залы і ў гэтай справе атрымалі вялікую падтрымку бургамістра Гайнаўкі Анатоля Ахрыцюка, бо былі намаганні, каб інвестыцыю рэалізаваць у іншых месцах, а не каля нашай школы. Зараз побач басейна знаходзіцца вялікая аўтастаянка, на якой затрымліваюцца турысты па дарозе ў Белавежу, і гайнавяне, якія прыязджаюць сюды, каб пакарыстацца басейнам або наведаць цэнтр горада.

**Анатоль Ахрыцюк** — Тут, дзе збудаваны крыты басейн, найлепшае для яго месца ў Гайнаўцы, бо гэта цэнтр горада, а паблізу знаходзяцца школы.

— Мы наогул ахвотна вяртаемся ўспамінамі ў школьныя гады. У час з'езда выпускнікоў будзе нагода паразмаўляць са школьнымі сябрамі.

**Анатоль Ахрыцюк** — Ёсць у нас школьныя сябры, з якімі мы не бачыліся ад ліцэйскіх гадоў. Калі спаткаем іх, то некаторых можам не пазнаць. Спачатку выпадала б упэўніцца, ці гэта нашыя сябры і тады спытаць пра жыццё, ці сям'ю. Больш падрабязныя размовы вядуцца пазней, падчас сяброўскіх сустрэч.

**Яўген Сачко** — Я закончыў белліцэй 33 гады таму. Частку школьных сяброў спатыкаю ў Гайнаўцы і бачу, як мяняецца іх выгляд. Ёсць такія, якіх я не бачыў ад заканчэння сярэдняй школы і засталіся яны ў маёй памяці такімі, якімі былі ў ліцэйскія гады. Можа не пазнаю іх, калі прыедуць на з'езд. Я, аднак, буду прымаць удзел у з'ездзе не толькі як былы вучань, але таксама як настаўнік белліцэя. Цікава мне будзе спаткацца са сваімі вучнямі, якіх я быў выхавацелем, і паразмаўляць з імі. Ведаю, што частка з іх збіраецца на з'езд. Ім лягчэй дамовіцца на супольную сустрэчу, бо гэта пакаленне сацыяльных сетак.

— Дзякую за размову і жадаю ўдалага з'езда.

**Гутарыў Аляксей Мароз**



9 770546 196000



# Дурман прапаганды

Усё маё пакаленне дзяржава хацела і ўсяляк імкнулася зрабіць савецкімі людзьмі. З дзяцінства мы верылі ў святасць кучаравага хлопчыка Валодзі Ульянава і ў ідэалы „Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі", якую гэты вырасшы „чалавечышча" Ульянаў-Ленін здзейсніў. Мы былі перакананы, што больш справядлівай і добрай дзяржавы, чым Савецкі Саюз няма і не можа быць нідзе на свеце, мы верылі, што жыхары афрыканскіх краін хочуць будаваць сацыялізм, а праклятыя капіталісты ім гэтага не даюць.

Добра памятаю свае перажыванні, калі памёр Леанід Брэжнеў. Мне, тады 15-гадоваму юнаку, гэта здавалася сапраўднай катастрофай. Карыкатурнага Ільіча асабіста было неяк не шкада, але думалася, што неўзабаве пачнецца сусветная вайна, бо Брэжнеў быў менавіта такім вялікім чалавекам, які трымаў мір на планеце Зямля. І цяпер без яго дакладна ўсё рухне, абрынецца, паляціць у бездань апакаліпсісу. Але ішлі дні, а канец свету нешта не наступаў. Прыблізна ў гэты час у мяне з'явіўся радыёпрымач „Океан", у якім можна было „вылавіць" „Голас Амерыкі". Атрыманне альтэрнатыўнай інфармацыі дзейнічала хутка. Імклівы зыход у нябыт іншых крамлёўскіх старцаў-правадыроў — Юрыя Андропава і Канстанціна Чарненкі ўспрымаўся ўжо зусім па-іншаму — хутчэй з абыякавасцю і сумнай іроніяй.

Канчаткова савецкім чалавекам я перастаў быць у савецкім войску. Гэта быў такі тэатр абсурду, дзе ў гратэскавым стылі была канцэнтравана ўся фальшывая сутнасць „союза нерушимого", уся недарэчнасць яго прапаганды. Тады ж надышла перабудова і з'явілася шмат ужо друкаванай праўды пра гісторыю розных перыядаў. У войску да мяне дайшло і разуменне каштоўнасці сваёй мовы і культуры — да гэтага прывяло назіранне за прадстаўнікамі іншых шматлікіх нацый, якіх у арміі былі дзясяткі. Так падрабязна расказваю пра асабістыя перажыванні таму, што, мяркую, гэта быў тыповы шлях трансфармацыі свядомасці для многіх людзей з майго пакалення.

Потым Савецкі Саюз сканаў і нейкі перыяд, здавалася, тыя часы з іх хлуслівай скрозь ідэалогіяй мінулі незваротна. Але ж неўзабаве выявілася, што не. Цяперашнія ж падзеі ва Украіне і вакол яе выразна паказваюць тое, што подлая дэзінфармацыя людскіх масаў эфектыўная і дзейнічае. І тое, што архетып савецкага чалавека досыць пашыраны і мае мноства паслядоўнікаў. Проста неверагодна, наколькі людзі імкнуцца быць сляпымі і глухімі, адварочваюцца ад праўды і не хочуць ведаць і бачыць відавочнага. У Расіі зараз адбываецца сапраўдная істэрыя шавінізму і нянавісці. Спачуваю прадстаўнікам сапраўднай расійскай эліты, якія ў нешматлікай сваёй колькасці імкнуцца супрацьстаяць інфармацыйнаму валу атрутнай антыўкраінскай прапаганды.

Беларусь жа знаходзіцца амаль цалкам у расійскамоўнай інфармацыйнай прасторы і нашы жыхары таксама апынуліся ў гэтым ксенафобным дурмане. Невыпадкова ўлады паслядоўна знішчалі недзяржаўную прэсу. Так у Гродне зараз няма аніводнай незалежнай газеты, з нядаўняга часу жыхары на звычайных кабельных сетках пазбавіліся і польскага тэлеканала „Polsat" і ўкраінскага „Інтер". А інтэрнэт пакуль не ў стане перабіць тэлевізійную „скрынку". Гэта як у савецкі час старыя людзі прамаўлялі: „Гэта ж па радзіве казалі" — ім тая інфармацыя падавалася найвышэйшаю ісцінай. Тэлевізару ж і цяпер многія вераць больш чым Богу. Вось выходзяць, прыкладам, людзі з царквы і пачынаюць абурацца, якія бандыты гэтыя ўкраінцы — паразбуралі столькі помнікаў Леніну. І нават не задумваюцца, колькі гэты крываважэрны Ленін зрабіў па знішчэнні святароў, храмаў і рэлігіі ўвогуле. Такая простая думка ім нават у галаву не прыходзіць. Нават адукаваныя людзі пачынаюць разважаць пра недапушчальнасць дзеянняў „бандэраўцаў". Прытым ні пра Сцяпана Бандэру не прачыталі ні старонкі, ні пра каго яны гавораць у сучаснасці не ўяўляюць ні каліва. Яны нават не разумеюць, што гэта Расія нападае на суверэнную Украіну, а не наадварот...

Дурман ілжывай прапаганды развеецца не хутка. Пасля яго цяжкае пахмелле, выхад з якога няпросты, доўгі і пакутлівы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Селядзец у пасланні



Зварот да нацыі, прамоўлены кіраўніком дзяржавы, гэта не абы-што. Няма там легкадумнага зместу — ён па азначэнні ўрачысты і змястоўны. Кожнае слова мае ў ім важнасць і значнасць. Выказваецца праз яго сур'ёзнасць дзяржавы, яе палітычная філасофія, глыбокая грамадская рэфлексія, значны каментар да важкіх падзей, клопат пра дабрабыт грамадзян; спадзяванні, аптымізм. Таму нельга недаацэньваць штогадовага паслання, якое ў апошнія дні абвясціў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Акрамя пабочных сюжэтаў, такіх як бягучы вельмі добры стан дзяржавы, відныя эканамічныя поспехі краіны, сацыяльная задаволенасць і г.д., галоўнай тэмай гэтай прамовы быў, перш за ўсё, шчыры клопат пра будучыню Беларусі. Драматычны маштаб прэзідэнцкага хвалявання паказваюць змешчаныя ў пасланні пытанні, накіраваныя — вось, звярніце ўвагу — ужо не да нацыі, а да кожнага прысаромленага (спадзяюся!) беларуса паасобку: «Чаму ты нанач жарэш бульбу з мясам? Як ты будзеш спаць? Не еж мяса, еж селядца!»

Я прызнаюся, што і мяне турбуе праблема гіганцкага абжорства беларусаў. У канцы ж гэта нашы бліжэйшыя суседзі. Тым не менш, у кантэксце эканамічнага поспеху і росту дабрабыту, як намякнуў у сваім пасланні прэзідэнт, іх распушчанасць мяне не здзіўляе. Аналагічна вялі сябе немцы пасля 1873 года, калі перамаглі Францыю. Як пісаў летапісец, дзякуючы астранамічным кантрыбуцыям, накладзеным на тых, хто прайграў і па галодных гадах вайны, нямецкі народ кінуўся ў непрыстойнае страваванне перамогі. «Яны не ядуць, а жаруць!» — рэзюмаваў з іроніяй. Я дадам, што гэта была злавесная іронія. Празмернае падтакванне страўніку ўявіло немцаў у напыхлівасць, што прывяло да глабальнага катаклізму — Першай сусветнай вайны. Прэзідэнту Лукашэнку, дарэчы, не думаецца пра напыхлівасць сваіх суайчыннікаў. Кіруе ім клопат пра будучыню Беларусі. Бо дабрабыт разбэшчвае, а некантраляванае спажыванне цяжкай ежы, асабліва перад сном, прыводзіць да фізічнай дэгенерацыі адзінак і ў выніку да духоўнага звядання, псіхічнага паралічу, інтэлектуальнага ідыятызму, да паўсюднага склерозу і канчатковай гібелі ўсёй нацыі. Для талковых людзей выснова відавочная. Калі ўжо што-небудзь есці, дык адно неакрашаную бульбу, ды і то вараную з лупінай, таму што тады яна не губляе пажыўных рэчываў. Вядома, мы гаворым толькі пра бульбу сертыфікаваную нацыянальнымі калгасамі — не дай Бог есці замежнае! Па словах кіраўніка дзяржавы, замежнае — «не на беларускія арганізмы». У адпаведнасці з гэтай логікай, «не на беларускія арганізмы» таксама цытрусавыя і іншыя «не свае» плады — напрыклад плады мора, да якога Беларусь не мае доступу. У гэтым сэнсе, становіцца спрэчным пытанне і наконт селядца, якога прэзідэнт так горача прапануе апетыту землякоў. Ды не будзем пераборшчваць! Салёны селядзец гэта ж беларуская нацыянальная страва — ён наскрозь беларускі. І хопіць пра гэта. Хаця мяне непакоіць штосьці іншае. Гэта праўда, што селядзец посны і ў той жа час пажыўны. Ён таксама змяшчае шмат цынку, неабходнага, наогул кажучы, для рэпрадуктыўнасці нацыі. І гэта надзвычай важнае пытанне, улічваючы прагрэсавальную дэпапуляцыю Беларусі. На жаль, пасля селядца сушыць. У выніку, яго спажывец, нахлябтаўшыся вады, замест спаць, будзе бегаць усю ноч у туалет, каб памачыцца. І якая тады будзе з яго карысць назаўтра на працы? Якраз гэта я хацеў бы даць пад развагу прэзідэнту Лукашэнку. Думаю, аднак, што ён нанач селядцамі не наядаецца, таму будзе цяжка мяне абудзіць яго з глыбокага сну.

У гэты момант я павінен згадаць адну павучальную і сапраўдную гісторыю. Да вынаходства будзільніка ў Англіі і Ірландыі існавала прафесія пад назвай «knocker-upper». Яго функцыяй было разбуджванне людзей, каб паспелі своечасова на працу. Кожны з «нокераў» меў на гэта свае спосабы. Напрыклад, жанчына па імені Мэры Сміт зарабляла па 6 пенсаў у тыдзень, страляючы гарохам у вокны спаўшых рабочых. Толькі што не заўсёды трапляла ў акно. Хіба ад гэтай справы ўзялася прымаўка «Кідаць гарохам аб сцяну»? Я не ўпэўнены ў гэтым, але ведаю, што малайчына Мэры Сміт утрымлівала за гэтыя нікчэмныя 6 пенсаў не толькі сябе, але і сваю шматлікую сям'ю. Толькі што сёння кіданне гарохам — вельмі слабенькі інтарэс. Проста, шкада слоў.

**Міраслаў ГРЫКА**

*Вачыма еўрапейца*

# Павеяла аптымізмам?



Пасля Вялікадня Міністэрства ўнутраных спраў (МУС) апублікавала справаздачу на ста чатырнаццаці старонках (33 старонкі аналізу, астатнія гэта ўкладанні) па барацьбе са злачыннасцю, звязанай з расавай дыскрымінацыяй, ксенафобіяй і нетальрантнасцю, пад загалоўкам «Беласток мяняецца». Была яна створана па загадзе міністра Бартламея Сянкевіча, у свой час аўтара заклікy супраць вінаватых у здзяйсненні такіх злачынстваў: «Idziemy po was!». Амаль з самага пачатку даклада можна прачытаць: «Беласток да нядаўняга часу асацыяваўся шмат каму з шэрагам расісцкіх актаў гвалту і вандалізму. Цяпер гэта горад, які актыўна ўдзельнічае ў барацьбе з ксенафобіяй і расізмам. І гэтая барацьба прыносіць адчувальныя вынікі. Ужо 35 чалавек прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за злачынствы з нянавісці. Амаль у восем разоў павялічылася колькасць узбуджаных спраў. З іміджу горада паслядоўна знікаюць надпісы і сімвалы „мовы варожасці". У той жа час расце лік шматкультурных ініцыятыў, навучанне талерантнасці. З мая мінулага года ў горадзе не было ніякіх сур'ёзных інцыдэнтаў на расісцкай глебе. Гэта прыкмета таго, што Беласток мяняецца».

Была створана Група па папярэджанні актаў расізму і ксенафобіі. Быў праведзены шэраг ініцыятыў (семінараў, нарад, лекцый) з удзелам супрацоўнікаў паліцыі і спецыялістаў, навучаючых талерантнасці. У рамках сумеснага патрулявання падляшскія паліцыянты з функцыянерамі Агенцтва ўнутранай бяспекі і Памежнай службы сустрэліся з сем'ямі замежнікаў, пражываючых у Беластоку, забяспечваючы ім сваю падтрымку. «Візіты» таксама ўключаны ў дзейнасць участковых паліцыянтаў у мікрараёнах. У агульнай складанасці, супрацоўнікі наведалі такіх сем'і больш чым дзве тысячы разоў. Акрамя таго створана спецыяльная Група інтэрвенцыі, якая патрулюе небяспечныя мікрараёны. Таксама павялічылася колькасць паліцэйскіх патрулёў. У справаздачы адзначаецца: «Усе гэтыя і шэраг іншых дзеянняў спрыялі большай актыўнасці паліцыі і мясцовай супольнасці ў барацьбе са злачынствамі на глебе нянавісці». З дадзеных Галоўнай камендатуры Паліцыі вынікае, што падляшскія службы значна больш спраўна рэагуюць на гэтага тыпу здарэнні, чым іх функцыянеры ў іншых ваяводствах. Уступаюць толькі паліцыянтам са сталічнага гарнізона, якія рэгіструюць найбольш спраў па артыкуле 256 КК (публічнае прасоўванне фашысцкага і таталітарнага рэжыму). У агульнай складанасці, у 2013 годзе на Падляшшы ініцыявана 85 расследаванняў за расізм (на 64 больш, чым у 2012 годзе). Паліцыянты выказаліся прытым эфектыўнасцю — у амаль 90 адсотках разбораў даказалі, што на самой справе там дайшло да здзяйснення злачынства.

Справаздача звяртае ўвагу на факт маніторынгу інтэрнэту, назіранне за канцэртамі, шэсцямі і матчамі, конкурсы, адукацыйныя семінары для моладзі і шэраг іншых ініцыятыў падляшскага ваяводы, гарадскіх улад і мясцовых арганізацый: «Іх прыхільнасць у значнай ступені спрыяла барацьбе з расізмам і захоўванню павагі да людзей іншай нацыянальнасці або рэлігіі». Тут аўтары адзначаюць, што амаль палова разбораў была заяўлена ў паліцыю асобамі, якія не з'яўляюцца ахвярамі, і 28 адсоткаў паведамленняў былі з дзяржаўных устаноў і няўрадавых арганізацый. Было таксама адзначана, што паліцыянты значна часцей атрымліваюць паведамленні аб расісцкіх надпісах на мурах Беластока: «Дзякуючы хуткай рэакцыі паліцыя можа зарэгістраваць інцыдэнт, а затым праінфармаваць уладальніка аб пашкоджанай плошчы. З вобразу горада таксама зніклі надпісы, якія „ад заўсёды" скажалі краявід горада». У гэтым дакуменце змешчана таксама цікавыя дадзеныя. На тэрыторыі Беластока ў цяперашні час (май 2013 г.) прабывае: 621 замежнік, прапісаны на пастаяннае месцазнаходжанне, 656 замежнікаў зарэгістраваных на часовае пражыванне, 154 замежнікі, якія хадайнічаюць аб атрыманні статусу бежанца (якія жывуць у асяродку для бежанцаў), 74 замежнікі, якія хадайнічаюць аб атрыманні статусу бежанца (жывуць у прыватным жыллі), 689 замежнікаў, якія навучаюцца ў вышэйшых школах у Беластоку. Дзіўна прагучаў у справаздачы адзін з высноў яго сказаў: «Прагноз на бліжэйшыя гады аптымістычны, паколькі апошнія статыстычныя даныя за студзень і люты 2014 года паказваюць, што паліцыя правяла больш расследаванняў (13 працэдур), чым за ўсю першую палову 2013 года (11 разбіральніцтваў)». Чаму ён аптымістычны спытаецца хтосьці. Сімптаматычна, што даклад быў выпушчаны амаль адначасова з інцыдэнтам у беластоцкім квартале Лясная даліна, ахопленым спецыяльнымі адукацыйнымі акцыямі пасля расісцкіх інцыдэнтаў. Хтосьці абліў белай фарбай расісцкі летам мінулага года антырасісцкі мураль на адным з блокаў па вуліцы Хлопскіх батальёнаў. Змясціці былі там цытату з твора Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера: «Людзі роўныя, але няроўнасць дзеліць іх». Так і хочацца сказаць, нягледзячы на аптымізм аўтараў даклада, што ў Беластоку надалей дзеляць.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# ГАРМОНІЯ дае свабоду

Размова з 33-гадовым **Максімам Шуміліным**, адным з самых цікавых фатографаў у Беларусі, таксама мінскім ды-джэем.


Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Мацей Халадоўскі: — Чаму Ты кінуў журналістыку?**

Максім Шумілін: — Адказ просты: паўнутраным становішчы я не журналіст. Я паступіў на журфак. Мне здавалася тады, што гэта маё. Потым я працаваў год у гэтай прафесіі, і слава Богу, у гэты час я зразумеў, што гэта цалкам не мая прафесія.

**— Але што менавіта зразумеў?**

— Тое, што я не графаман і не ўмею пісаць у масавым маштабе. У той жа час я люблю пісаць, але з упорам на невялікія, больш паэтычныя формы. Журналістыка з'яўляецца найперш логікай у любой яе праяве, ці гэта журналістыка інфармацыйная, ці публіцыстычная. Я зразумеў, што я аддаю перавагу паэзіі, чым інфармацыі і журналістыцы.

**— Ну і што, Ты пачаў пісаць вершы?**

— Не, але я проста не мог унутрана справіцца з журналістыкай.

**— І адтуль фатаграфія?**

— Ну, так. Найперш, у 2003 годзе, я трапіў на стажыроўку ў рэспубліканскую газету „Экспресс Новости», у якой працаваў год пасля журфака. На шчасце, гэта была незалежная газета. Там прыйшлося мне заняцца прэсавай фатаграфіяй, фотаілюстрацыямі да тэкстаў і інтэрв'ю. Гэта мне вельмі спатрэбілася ў працы з фатаграфаваннем людзей, для таго як да іх падысці, падрыхтаваць іх для фатаграфіі. На журфаку мы таксама займаліся фатаграфіяй — чорна-белай. Тады не было лічбавых камер. Раней я здымкі распрацоўваў разам з маім дзедкам пад чырвонай лямпай.

**— Чым з'яўляецца для Цябе фатаграфія?**

— З аднаго боку, гэта мая прафесія: прафесійная і камерцыйная дзейнасць, а з другога боку — творчасць і здольнасць апынуцца ў іншых: прасторы, часе, пачуцці, настрої, і ў кожным месцы ў кожнай кропцы свету, у любы час. Гэта выдатная тэрапія і цудоўная магчымасць бачання красы, уцёкі ў свет прыгажосці, знаходжанне там лекаў ад рэальнасці, каб у рэальнасць зноў вярнуцца.

**— Што для фатографа абазначае свабода ў Беларусі?**

— Для фатографа не мае значэння, ці гэта Беларусь, Аўстрыя, Літва, Польшча ці іншая краіна. Мы жывем у пэўным свеце, з пэўнымі межамі. Важна, каб мець гармонію з пачуццём сваёй уласнай волі. Я думаю, што на дадзеным этапе майго жыцця яна прысутнічае. Свабода ж гэта паняцце адноснае. Генеральна, я не хачу ўсяго. Вядома, у мяне ёсць акрэсленыя рамкі: што мне падабаецца, штосьці не, я хачу нешта, а чагосьці не хачу. Тым не менш, калі ты знаходзішся ў гармоніі са сваімі жаданнямі і навакольным светам, у цябе ёсць пачуццё свабоды і ўсё спрацоўвае правільна.

**— Называюць Цябе ў Беларусі «творчым, свабодным фатографам». Ці можаш сказаць мне, што гэта значыць?**

— Я не ведаю (смяецца). Магчыма, тыя, што кажуць, маюць на ўвазе, што не мяшаю мастацкай фатаграфіі з нічым іншым. У мяне ёсць вельмі выразны падзел паміж мастацкай фатаграфіяй і выконванай прафесійна, для заробку. Ва ўсякім выпадку, гэты падзел ёсць ва ўсім маім жыцці, ва ўсіх маіх адносінах. Я крыху ідэаліст, і мне гэта падабаецца. Калі справа ў творчасці, не мае значэння, ці зводзіцца яна з грашыма, ці не. Я не стаўлю перад сабой задачы, каб са сваёй мастацкай фатаграфіі рабіць камерцыйныя праекты, прытым да канца жыцця. Я раблю гэта таму, што я не магу не рабіць гэтага. Гэта дзверы, праз якія я выходжу ў свет, а не грошы. Гэта магчымасць жыцця ў радасці і прыгажосці. Мучыцца, каб мець грошы ў старасці? Ва ўсякім выпадку, калі ў цябе ёсць мноства грошай на старасць, дык невядома, што ты ў жыцці натварыў!

**— Які, на Тваю думку, стан беларускай мастацкай фатаграфіі?**

— Фатаграфія наогул у сучасным свеце расце вельмі моцна. Гэты папулярны і распаўсюджаны занятак. У Беларусі існуе шэраг акцый і іншых мерапрыемстваў, звязаных з фатаграфіяй. Ёсць шмат людзей, якія хочуць гэта рабіць. Многа такіх, што зрабілі шмат добрага для беларускай фатаграфіі ў 1980-х і 1990-х гадах, а то і раней. Праблемай, а можа не праблемай, а асаблівасцю Беларусі з'яўляецца агульная эканамічная сітуацыя. Гэта адносіцца да любой сферы жыцця ў нашай краіне. У сувязі з гэтым паяўляецца шмат праблем. Каб у Беларусі выдаць фотаальбом, трэба тысяч долараў. У цяперашні час беларус не ў стане выдаць такі альбом. Хутчэй выдасць гэтыя грошы на аўтамабіль.

**— Ты часта сустракаешся з надпісамі: «Фатаграфаванне забаронена»? Што забаронена фатаграфаваць у Беларусі?**

— Вядома, не ўсё можа быць сфатаграфаваным у Беларусі. Але гэта, хутчэй, праблема фатографаў, якія здымаюць фотарэпартажы ці сацыяльныя тэмы. Я хачу, каб мае здымкі рабілі людзей лепшымі, праз захапленне момантаў, калі прыходзіць да іх прыгажосць. Калі яна з'яўляецца, робіць іх лепшымі, таксама і ў сацыяльнай сферы. Калі жывеш прыгожа, думаеш прыгожа, усе твае ідэі зрэалізуеш у дачыненні да прыгажосці, твае думкі засяроджваюцца вакол прыгожага, не можаш быць дрэнным. Як сказаў Дастаеўскі, свет будзе выратаваны прыгажосцю. Калі б усе ў Беларусі крыху супакоіліся і прачыталі, напрыклад, пару кніг, не было б ніякіх забарон, напружанасці з ніякага боку. Так, я антысацыяльны.

**— А Беларусь з'яўляецца краінай чорна-белай, ці каляровай? Якія колеры Ты асацыюеш са сваёй краінай?**

— Пераважаюць усе адценні сіняга і зялёнага, і крышку чорнага, чорна-шэрага, у добрым сэнсе. Зразумела, што Беларусь не жоўтая краіна, як Іспанія. Такія колеры мне з Беларуссю асацыююцца таму, што тут ёсць азёры, рэкі. Часта езджу на прыроду. І ўдзень, і ўночы, і пры ўсходзе, і пры захадзе. Магчыма, менавіта таму для мяне Беларусь мае тыя колеры. Вершы таксама маюць колеры.

**— Для чаго ў Цябе ў гэтым Тваім свеце музыка?**

— Без яе жыццё немагчыма. Я думаю, што гэта самае моцнае з мастацтваў. Найбольш уплывае на мяне. Можа быць таму, што яна не кранае ніякіх матэрыяльных сфер. Узнікае і прападае. Не трэба яе як карцін пераносіць з кута ў кут. Існуе толькі ў тваёй душы і сэрцы. Мне падабаецца яе вечнатрываласць і тое, калі сядзіш, напрыклад, засяроджаны ці ўдумлівы, пачуеш музыку, і ты раптам гатовы да дзеяння.

**— Значыць, таму Ты ды-джэй?**

— Гэта таксама такі бок жыцця, які прыносіць радасць, калі людзі танцуюць пад музыку, якую ім пускаю. У апошні час я пачаў ставіцца да многіх рэчаў больш сардэчна і лягчэй. Так, я раблю чорна-белую, аскетычную і метафарычную фатаграфію. І так пакуль што будзе, бо такія дзверы ў мяне адчынены. Але разам з гэтым я люблю пускаць людзям кубінскія ці пакістанскія кружэлкі і бачыць вакол танцуючых.

**— Што робіш у Беластоку?**

— Я здымаю акцёраў Драматычнага тэатра. Іх партрэты ў маім выкананні будуць вісець у ягоным фае. Фатаграфую іх у класічнай чорна-белай манеры. Дэмакратычна, без „масак", без поз, з іх добразычлівай усмешкай, з якой са здымкаў будуць сустракацца з гледачамі. Усоды на фотаздымках, якія я бачыў у тэатрах, акцёры ёсць у нейкіх ролях, на пазіраваных партрэтах. Пасля некалькіх гадоў такія «маскі» акцёраў становяцца смешнымі. Фотадакументальныя здымкі акцёраў, іх твары без масак, больш каштоўныя праз гады. Такія твары, захопленыя ў адну хвіліну, час робіць яшчэ больш каштоўнымі.

**— Дзякую за размову.**

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# OŚWIADCZENIE

Białystok, 28.04.2014 r.

**STOWARZYSZENIE**
**NA RZECZ DZIECI I MŁODZIEŻY**
**UCZĄCYCH SIĘ JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO AB-BA**
**UL. CZĘSTOCHOWSKA 6A LOK. 8**
**15-459 BIAŁYSTOK**

**Departament Edukacji**
**Urzędu Miasta Białegostoku**
**ul. Legionowa 7**
**15-281 Białystok**

Z oburzeniem przyjęliśmy informację o tym, że do Szkoły Podstawowej nr 4 im. Sybiraków w Białymstoku nie zostało przyjętych sześcioro dzieci, których rodzice zadeklarowali chęć nauki języka białoruskiego. Szkoła Podstawowa nr 4 jest jedyną placówką publiczną w Białymstoku, w której dzieci uczą się języka białoruskiego jako języka mniejszości narodowej. Tym samym decyzja Urzędu Miasta odbiera dzieciom prawo nauczania języka ojczystego zagwarantowane przez następujące akty prawne:

— Konstytucja RP (art. 35.1),

— Ustawa z dnia 6 stycznia 2005 r. o mniejszościach narodowych i etnicznych oraz o języku regionalnym,

— Europejska karta języków regionalnych lub mniejszościowych,

— Rozporządzenie Ministra Edukacji Narodowej w sprawie warunków i sposobu wykonywania przez przedszkola, szkoły i placówki publiczne zadań umożliwiających podtrzymywanie poczucia tożsamości narodowej, etnicznej i językowej uczniów należących do mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym,

Język białoruski w Szkole Podstawowej nr 4 jest nauczany od 1997 roku. Dotychczas wszystkie dzieci deklarujące chęć nauki języka ojczystego miały taką możliwość. W tym roku doszło do precedensu. Z 29 dzieci zapisanych na język białoruski 6 niezrozumiałą decyzją administracyjną zostało skreślonych z listy uczniów. Nasze zdziwienie jest tym większe, iż wśród nieprzyjętych dzieci troje ukończyło białoruskie grupy w Przedszkolu Samorządowym nr 14 w Białymstoku.

Rodzice zrzeszeni w Stowarzyszeniu AB-BA byli inicjatorami nauki języka białoruskiego w Białymstoku na wszystkich szczeblach edukacji (Przedszkole Samorządowe nr 14, Szkoła Podstawowa nr 4, Publiczne Gimnazjum nr 7, III Liceum Ogólnokształcące) oraz współautorami Strategii Rozwoju Oświaty Mniejszości Białoruskiej w Polsce. Nasza wieloletnia praca na rzecz edukacji białoruskiej w Białymstoku przyczyniła się do jej znacznego rozwoju, o czym świadczy między innymi tak duża liczba dzieci zainteresowanych nauką języka białoruskiego. Decyzja Urzędu Miasta nie tylko ogranicza prawa mniejszości, jest też sprzeczna z deklarowaną polityką wielokulturowości miasta i szkodzi wizerunkowi Białegostoku. W związku z powyższym prosimy o zweryfikowanie tej chybionej decyzji.

Prosimy o umożliwienie nauki w Szkole Podstawowej nr 4 dzieciom, których rodzice zadeklarowali chęć nauki języka białoruskiego jako języka mniejszości narodowej. Liczymy również na to, że w kolejnych latach system rekrutacji zostanie na tyle zmieniony, aby podobna sytuacja nie miała miejsca.

Katarzyna Pawłowska
Przewodnicząca Stowarzyszenia AB-BA

**Do wiadomości:**
1/ Ministerstwo Edukacji Narodowej
2/ Ministerstwo Administracji i Cyfryzacji
3/ Komisji Wspólna Rządu i Mniejszości Narodowych i Etnicznych
4/ Sejmowa Komisja Mniejszości Narodowych i Etnicznych
5/ Wojewoda Podlaski
6/ Prezydent Miasta Białegostoku
7/ Kuratorium Oświaty w Białymstoku
8/ Rada Miasta Białegostoku
9/ Dyrektor Szkoły Podstawowej nr 4
10/ Związek Białoruski w RP
11/ Media

## Чарговыя веласіпедныя дарожкі

— У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных дарожак. Сёлета будзе дадатковых 15 кіламетраў. Зараз заканчваюць пабудову веласіпеднай дарожкі побач маставой на вуліцы Міцкевіча, ад вуліцы Звежынецкай да вуліцы Цыялкоўскага. Будуюць дарожку на вуліцы Кавалерыйскай, ад вуліцы Веснавой да Пуласкага і пры вуліцы Герояў гета, ад алеі Пілсудскага да вуліцы Жабінай, — праінфармаваў Януш Астроўскі, дырэктар Прраўлення дарог і гарадскіх інвестыцый.

— Будаўнічыя брыгады сустрэнем таксама на вуліцы Людовай і пры пабудове дарожкі пры дарозе ў Грыневічы ад мяжы горада да вуліцы Віядук (Wiadukt), — дадае Януш Астроўскі. — Трасы для веласіпедыстаў будуць таксама пры перабудоўваных вуліцах Цыялкоўскага, Вярбовай, Канстытуцыі 3 Мая і Клеберга.

— Яшчэ сёлета хочам распачаць пабудову трасы ад алеі Пілсудскага цераз вуліцу Сянкевіча да вуліцы Андэрса. Ужо рыхтуем дакументацыю, — падкрэслівае прадстаўнік магістрата.

Дзякуючы гэтым інвестыцыям, беластоцкія веласіпедысты будуць мець усіх разам сто кіламетраў трас. Магістрат намераны будаваць чарговыя веласіпедныя трасы. Інвестыцыі маюць рушыць ад наступнага года па вуліцы Марчукоўскай, Браніцкага, Хробрага ды спалучэння Мачка і Клеберга. Прадстаўнікі магістрата паведамляюць загадзя, што паслядоўна будуць старацца спалучаць усе веласіпедныя дарожкі. Вядома, было б добра, каб па іх можна было спакойна даехаць у цэнтр горада.

Сёлета веласіпедысты атрымаюць яшчэ, між іншым, 560-метровую дарожку ўздоўж алеі Пілсудскага. Гэты невялікі адрэзак будзе бегчы пры самым берагу рачулкі Белай пад двума мастамі да вуліцы Палацовай ды да кругавога скрыжавання Люсы.

**(яц)**

## Кляшчэлеўскія інвестыцыі

Сёлетні бюджэт Кляшчэлеўскай гміны складае 9 106 136 зл. на баку прыбыткаў і 9 386 636 зл. на баку выдаткаў. Дэфіцыт велічынёю 280 тысяч зл. будзе пагашаны банкавым крэдытам. На інвестыцыі прызначана 2 429 255 зл. Важнейшыя сёлетнія задачы гэта:

1) Будова каналізацыйна-водаправоднай сеткі на вуліцах Вісьнёвай у Кляшчэлях, ды Ціхай і Спакойнай у Дабрывадзе — кошт задачы 886 629,36 зл.

2) Рамонт святліцы ў Жуках — 262 794,88 зл. Рэалізацыя задачы пачнецца ў 2014 г., а закончыцца ў 2015 г.

3) Будова санітарных каналаў — гравітацыйных і нагнятальных — з помпавай станцыяй на вуліцы 1 Мая ў Кляшчэлях — кошт задачы 384 830,37 зл. (прад'яўлена заяву на дафінансаванне з Праграмы развіцця сельскіх раёнаў).

4) Ліквідаванне вырабаў з азбестам на тэрыторыі гміны — 55 807,50 зл.

5) Закупка пажарнага аўтамабіля — 1 000 000,00 зл.

6) Разгортванне электронных паслуг для насельніцтва — 136 626 зл.

7) Пабудова 38 прысядзібных станцый ачысткі сцёкаў — 435 543 зл.

8) Рамонт святліцы ў Сухавольцах — 189 681,89 зл.

9) Мадэрнізацыя вуліцы Касцельнай у Кляшчэлях — 950 000 зл. (заяву на дафінансаванне прад'яўлена Нацыянальнай праграме перабудовы лакальных дарог).

Прадугледжваецца, што пры рэалізацыі інвестыцыйных задач самаўрад пакрыстаецца датацыяй велічынёю 1 843 676 зл., а 470 279 зл. паступіць з гміннай касы.

**(ус)**

# У пошуках працы і хлеба

Арлянскай гміне з часу, калі Орля перастала быць індустрыяльным пасёлкам, утрымоўваецца беспрацоўе — больш за сто асоб зарэгістраваных у бельскай Павятовай управе працы (ПУП) і шмат больш незарэгістраваных. Можна сказаць, што кожны пяты-сёмы працаздольны жыхар гміны беспрацоўны; у іх ліку ёсць і землеўладальнікі.

Здаецца мне, што ўладкаваныя на працу, асабліва ва ўладных установах, не ўмеюць ці не хочуць шчыра ўнікнуць у праблемы беспрацоўных і ў агульнасці трымаюцца меркавання, што „беспрацоўе ў гміне невялікае, а калі хто хоча, то працу знойдзе". Як кажуць у народзе: сыты галоднаму не спачувае.

А праўда такая, што нямногія атрымліваюць з ПУП выгадную сабе прапанову працы, каб ёю пакарыстацца. Дайшло да таго, што ў ліку зарэгістраваных беспрацоўных многія рэгіструюцца дзеля атрымання медыцынскай страхоўкі. Гэта павінна задавальняць самую ўправу працы ды павінна цешыць і гмінную ўправу, бо калі чалавек застрахаваны, тады гміне не трэба, у выпадку неабходнасці, забяспечваць яго медыцынскай паслугай.



Фота Аляксея МАРОЗА

Чаму беспрацоўныя не карыстаюцца прапановамі працы з ПУП, чаму шмат асоб зусім перастала там рэгістравацца? Калі, напрыклад, трапляецца прапанова працаўладкавання, дык беспрацоўны — а ён найчасцей чалавек небагаты — не мае свайго аўтамабіля, каб на працу ў Бельск ці далей заехаць, бо аўтобусаў зараз нямнога ды курсіруюць яны ў нязручных гадзінах.

І чарговая справа. Шмат беспрацоўных асоб зарэгістраваных у ПУП, нават калі б прапанова была выгаднай, не могуць ёю пакарыстацца. А справа ў тым, што яны вымушаны апекавацца асобамі хворымі, пажылымі, з першай групай інваліднасці. Такія асобы з чэрвеня мінулага, 2013 года страцілі права на г.зв. апякунскую ўспамогу. А апекавацца надалей трэба не маючы нават медыцынскай страхоўкі — сапраўдны абсурд. „Гэта была памылка, якую выпраўім" — заявіў прэм'ер Дональд Туск па тэлебачанні.

Многія беспрацоўныя не рэгіструюцца ў ПУП, бо гэта іх стрэсуе і прыніжае. Чаму? Папросту абрыдае тлумачыць чыноўнікам ПУП, што не змогуць даехаць на працу ці прапанаванае прывучэнне. Адна паездка пэкаэсаўскім аўтобусам у Бельск (трынаццаць злотаў у абодва бакі) — гэта пакупка хлеба на тыдзень. І чыноўнікі заўсёды папракаюць хадайнікаў: „To po co Pan/Pani się rejestruje?"

У агульнасці: шмат беспрацоўных не рэгіструецца, бо знеахвочаны. Працаўладкаванне гэта для іх амаль цуд. Людзі не шукаюць працы, бо няма ў іх шансаў яе атрымаць.

Беспрацоўе ў Арлянскай гміне не памяншала і ў выніку смелых і адчайных спроб некаторых жыхароў гміны, якія на сваю рызыку выязджалі (і выязджаюць) за граніцу, нават у вельмі адлеглыя краіны, напрыклад, у Іспанію, Кіпр ці Ісландыю. Многія асобы расчараваліся. Бывала, што нават калі выезд за працай арганізавала ўправа працы, то на месцы аказвалася, што працадаўца плаціў удвая менш ці і зусім не плаціў, тлумачачы, што фірма акурат збанкрутавала, і паказваючы вываз з фірмы некаторых машын. Гэта вельмі прыгнятальная сітуацыя для асобы, якой за працу не заплацілі; так здарылася, напрыклад, у Ісландыі. Пошукі працы могуць завяршыцца і трагічным фіналам: вось нядаўна адзін жыхар Орлі, які працаваў у Ісландыі, раптоўна там памёр — цела перавезлі для пахавання ў Орлю, а да пагашэння коштаў транспарту далучыўся ісландскі працадаўца.

Многія асобы намагаліся самастойна знайсці працу за граніцай, аднак найчасцей вярталіся ў Польшчу з пустымі рукамі, пасля нейкага часу ехалі ў іншае месца, каб на канец вярнуцца гібець у Орлю. Праца ў замежжы вабіць добрымі заробкамі, але яна нялёгкая і варта мець знаёмствы і выдатную прафпадрыхтоўку, каб такую атрымаць. Тут матывіроўкай бываюць аліментацыйныя абавязацельствы — бацькі не хочуць трапіць у турму...

Бываюць выпадкі, што нашы людзі не спраўляюцца з працай у замежжы і яе самі пакідаюць — магчыма, што яна аказалася ім не пад сілу або заробак не задавальняў спадзяванняў. Але ёсць і такія, што ўжо шмат гадоў працуюць на захадзе Еўропы. Некаторыя з іх па некалькі гадоў не прыязджаюць у Орлю, а ёсць і такія, якія вяртаюцца на кароткі час, каб пабачыць як тут маюцца сямейна-маёмасныя справы і зноў вяртаюцца за граніцу на працу.

Трэба адзначыць, што з далучэннем Польшчы да Еўрасаюза страцілі папулярнасць выезды ў Амерыку. Некаторыя з Орлі працавалі там шмат гадоў і вярнуліся, а некаторыя не вяртаюцца. Як паказвае жыццё, большы заробак можа перавярнуць людзям у галовах, яны не вяртаюцца да сваіх сем'яў.

Нямногім беспрацоўным удаецца сяктак пражыць дзякуючы перыядычным датацыям бельскай ПУП. Паводле інфармацыі Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі (ГАСД), у мінулым 2013 годзе, з красавіка да лістапада, грамадска карысныя працы выконвала шэсць працягла беспрацоўных асоб, карыстальнікаў сацыяльнай дапамогі.

Паводле інфармацыі Гміннай управы, у мінулым годзе ў інтэрвенцыйных працах за шэсць месяцаў удзельнічала шэсць асоб (у тым двое стажораў), у публічных працах дзве асобы і дзве жанчыны за тры месяцы ў канцылярскіх працах.

Сацыяльная дапамога з'яўляецца інструментам сацыяльнай палітыкі дзяржавы для пераадольвання жыццёвых цяжкасцей сем'ямі, якія не могуць справіцца з гэтай праблемай, карыстаючыся ўласнымі сродкамі і магчымасцямі.

Паводле інфармацыі ГАСД у Орлі, ад студзеня да верасня мінулага 2013 года, выплатамі сацыяльнай дапамогі пакарысталася 101 сям'я (324 асобы), а ў канцы снежня 2012 года — 110 сем'яў (354 асобы). Для атрымання выплат з 1 кастрычніка 2012 года ўстаноўлена наступны прыбытковы крытэрый: для самотнай асобы даход да 542 злотаў, а для асобы ў сям'і — 456 злотаў.

Мяркуецца, што 16% польскага грамадства жыве ў крайняй бядзе. У Арлянскай гміне ў згаданы перыяд мэтавай успамогай на куплю спажывецкіх прадуктаў ахоплена 49 сем'яў (194 асобы), прызначаючы 66 выплат вартасцю ў 14 800 злотаў. Дакормліваннем у школе, вартасцю ў 28 199 злотаў, пакарысталася 96 дзяцей з сарака дзевяці сем'яў. Апрача гэтага дырэктар Комплексу школ у Орлі прызначыў харчавальную ўспамогу дваццаці двум ахвотным вучням. Гэтая форма падтрымкі не патрабуе даведак пра сямейныя абставіны ды даведак з ГАСД. ГАСД выдаткаваў 4 915 злотаў на 1947 успамог.

Штораз бядней у шматдзетных сем'ях, быццам усе ад іх адвярнуліся. З кастрычнікам 2013 года страцілі яны еўрасаюзную харчавальную дапамогу. Гэта ў Арлянскай гміне кранула некалькі дзесяткаў асоб, галоўным чынам дзяцей.

Шматдзетныя сем'і мусяць найбольш плаціць за збор адкідаў, лічаных ад кожнай асобы. Гэта вялікі сямейны выдатак, бо колькасць адкідаў у бедных сем'ях невялікая; не ахапілі іх ніякія льготы.

Недастаткам пакутуюць і адзінокія асобы. Людзі хацелі б падзарабіць дзе ўдасца. Раней гэтага не было, а сёння бывае, што ў краму заходзяць малады чалавек і пытае ўладальніка ці няма нейкага занятку, напрыклад, замесці ці адкінуць снег перад крамай.

Летам і восенню можна пабачыць людзей з вядзерцамі грыбоў, якія ходзяць ад хаты да хаты прапануючы іх продаж. Каб мець на хлеб, каб папросту жыць.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# ЯНАЎСКІЯ ТКАЧЫХІ

**Падвойныя янаўскія дываны завіслі ў красавіку на сценах Музея Сакольскай зямлі. Удзел у арганізацыі ткацкай выстаўкі, а таксама ў яе адкрыцці прыняла, між іншым, дырэктар Дома культуры ў Янаве Юстына Грабовіч. Экспанаты былі асабіста прывезены іх ткачыхамі, у ліку якіх апынуліся Галена Галко, Аліцыя Кахаlistаноўская, Данута і Караліна Радульскія, Бернарда Росць, Людгарда Сянько.**



Пра пачаткі характэрнага, між іншым, для паўночнай Сакольшчыны двухасноўнага ткацтва можна даведацца з выдадзенай у Мінску ў 2006 годзе кніжкі „Традыцыйная мастацкая культура беларусаў". Паводле яе аўтараў, у Панямонні двухасноўная тканіна паявілася ў XVIII стагоддзі. Яе сфарміравалі ткачы з Прусіі, Германіі і Заходняй Польшчы, аб'яднаныя ў гродзенскай цэхавай арганізацыі ткацкага рамяства. Па сёння народ беларуска-расійскага памежжа, узгадваючы двухасноўнае ткацтва, карыстаецца словамі тыпу „у ліцвякі", „ліцвяковыя", „нямецкая дымка", „нямецкі ўзор", „немцамі накідаць", „віленкі". Якім чынам гэты сімвал высокай заможнай культуры папаў пад беларускую сялянскую страху таксама можна даведацца са згаданай кніжкі. Пасля распаду мануфактур і цэхаў рамеснікі перасяліліся менавіта пад вясковыя стрэхі і ў мястэчкі. Там у памочнікі наймалі простых сялян. Іх вытворчасць карысталася папулярнасцю сярод заможных аднавяскоўцаў, шляхты і землеўладальнікаў.

Двухасноўнае ткацтва, як і іншыя варыянты народнай тэкстылі, аснаваныя на этнічнай ментальнасці народа. Прадстаўляе яно ўласцівую канкрэтнаму насельніцтву карціну свету, мастацкае светабачанне людзей. У гэтай карціне гістарычна чарнарускага свету амаль няма чырвонага колеру.

— У адзенні і побыце мясцовых здаўна пераважалі тканіны натуральных адценняў. Сіняга ў нас не пабачыш, — тлумачыць удзельніца сакольскага мерапрыемства Аліцыя Каханоўская. — Адна спадарыня Радульская пачала з ім нядаўна эксперыментаваць. Калі бярэм чырвоны, зараз гасім яго шэрым альбо чорным. Я сабе не ўяўляю рашучых колераў, у нас такія не бываюць. Як гэта выткаць дрэва ці пасеку, для прыкладу, ружовым альбо фіялетавым, — задумваецца спадарыня Аліцыя. — От я бяру на аснову белы і бронзавы, а пратыкаю гэта рыжым — не рыжым і шэрым. Інакш не можа быць.

Прэзентаваныя ў Сакольскім музеі працы поўнасцю сучасныя. У іх адлюстраваная навакольная прырода і вясковае жыццё з яго радасцямі і клопатамі. Колішнія ўзоры прысутнічаюць толькі ў двух ткацкіх экземплярах. Усе экспанаты вытканы жанчынамі, але і мужчыны гэтым займаліся. У Янаве надта славіліся сваім ткацкім майстэрствам бацька і сын Ярашэвічы.

Якімі прыкметамі павінен вылучацца кандыдат на прафесію ткача, запытала я ў Дануты Радульскай.

— Тут трэба вялікай заўзятасці, — адказвае ткачыха. — Надта цяжка таму навучыцца, ведаю гэта па сваім уласным вопыце. Калі я сама першы раз сядала за кросны, у адным моманце здавалася, што ўжо навучылася. Пачала перабіраць пальцамі, але зараз паявілася адчуванне, што нічога не ведаю і не ўмею. І зноў трэба пачынаць з самага пачатку, але тады ўсё атрымліваецца хутчэй і лягчэй. З такім досведам сутыкаюцца таксама ўсе мае вучні.





Патрэбная таксама цярплівасць. Данута Радульская прызнаецца, што адзін дыван трэба ткаць месяц, таму воўны ўжо не прадуць. Не хапае часу нават на тэлевізар паглядзець. Выставак і заказаў шмат. Вялікім гонарам янаўскія ткачыхі лічаць запрашэнне ў варшаўскую галерэю „Захэнта". Толькі што іх тканіны вярнуліся з Лодзінскага музея тэкстыльнай вытворчасці. Ужо трэці год янаўскія дываны падарожнічаюць па галерэях і выставачных залах Японіі. На жаль, ніхто не дапамог і не запрапанаваў янаўскім ткачыхам завязаць супрацоўніцтва з майстрыхамі па другім баку мяжы і, мабыць, у бліжэйшым часе ніякіх змен у гэтым плане не прадбачаецца.

Сямідзесяцітрохгадовая Людгарда Сянько — найстарэйшая ў кампаніі актыўных янаўскіх ткачых. Пачала яна займацца ткацтвам, як сама сказала, для хлеба.

— Бяда ўсяму навучыць, — гарантуе спадарыня Людгарда. — Калісь трэба было мне саткаць зорку, але ніяк гэта мне не атрымлівалася. Падалася я да адной ткачыхі за парадай. Тая мне параіла: тчы так, як атрымліваецца, раней ці пазней навучышся. Так і было. У хаце дзеці малыя, не было як іх пакінуць, каб пайсці некуды і падзарабіць. А тут і праца на месцы, дзеці дагледжаныя, у хаце ўсё параблена і яшчэ дадатковы грош паявіўся.

Ткаць спадарыня Людгарда вучылася ў 1970-х гадах. Усе суседкі тады займаліся ткацтвам. Кліенты самі да дзвярэй грукалі і ў „Цэпелію" можна было прадаваць. Гэта не тое, што цяпер.

— У 1950-х гадах у нашай гміне пражывала пяцьдзесят шэсць ткачых, а цяпер нас тут жменька, — прызнаецца Данута Радульская. — Калі б не было збыту, мы б гэтым не займаліся. На шчасце маем „Шлях народных ручных вырабаў", ткацкую ізбу пры доме культуры, ёсць і сайты ў інтэрнэце.

Яшчэ можна зарабіць прывучаючы іншых. На навуку ў Янава з'язджаюць маладыя людзі з амаль усёй Польшчы. Спадарыня Радульская прымала студэнтаў, між іншым, з Кракава, Варшавы і Гданьска. Толькі сярод мясцовых цяжка знайсці ахвотных, з сумам прызнае яна. Але і ў гэтым плане спадарыня Радульская можа пахваліцца поспехам. Ткацкаму майстэрству навучыла яна сваю нявестку Караліну.

Гэта, пакуль, наймалодшая ткачыха ў янаўскім цэху. Яна абітурыентка культуразнаўства. Ткаць пачала ў прошлым годзе, калі страціла працу ў Беластоку. Цяпер мае ўжо чым заняцца і цешыцца, што мае ад таго вялікае задавальненне.

— Раней я вярталася з работы ўсхваляваная, — гаворыць Караліна, — а гэты занятак мяне проста супакойвае... супакойвае — ціша.

Янаўскіх ткачых запрасілі ў Сакольскі музей упершыню. Жанчыны выказалі спадзяванне, што супрацоўніцтва будзе працягвацца.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

*Галіна БІРЫЦКАЯ*

## *Семяноўцы — 380*

*Сяманоўку ў добрым месцы пабудавалі.*
*Жалезная дарога з Варшавы ў Свіслач тут вядзе.*
*Семяноўскі заліў хваламі турыстаў прыцягае,*
*Прыгажэйшага месца не знойдзеш нідзе.*
*Пакаленняў многа тут жыло,*
*Семяноўцы 380 год мінула.*
*Многа падзей тут збылося.*
*Многім шчасце ўсміхнулася.*
*Перагрузачная станцыя тут была,*
*Семяноўка шчасцем расцвітала.*
*Работы тут было ўсім, хто не ленаваўся,*
*Ніхто не скажа, што работы не хапала.*
*Хто ашчадны быў, складаў грошы ды залатоўкі,*
*Штотыдзень больш тон перагрузіць стараўся,*
*Дык хутка пакуплялі ўсе „таксоўкі".*
*Улады ў гміне задаволены былі,*
*Людзі ў час падаткі аддавалі.*
*Не прыязджалі ў вёску каморнікі,*
*Вясковыя сабакі на іх не брахалі.*
*Калектыў „Сямяне" тут быў заснаваны,*
*Каторы вёскі песняй расслаўляў,*
*Маладым і старэйшым па цяжкім старанні*
*Радасці ў жыцці ён дадаваў.*
*Цяпер астаўся спеваком*
*Толькі адзін Ваня,*
*Які паклікаў да сябе спяваць*
*З Дубін жанчыну Маню.*
*Кулаком у свае грудзі ён стукне,*
*Ды нагой тупне,*
*З усмешкай і прыгожа на людзей гляне,*
*Дык не адной жанчыне сэрца вяне.*
*Таленавітую дзяўчыну з Семяноўкі маем,*
*Галену Рэнт, Марыёляй яе называем,*
*Войт гміны яе ў Нараўку забраў,*
*У Доме культуры дырэктаркай быць загадаў.*
*З першых дзён яна ўзялася за работу,*
*У цэлай гміне ў святліцах дзверы адчыніла,*
*Людзей паклікала ў іх з ахвотай*
*Сваім талентам і ўсмешкай прыклад зрабіла.*
*Вадасховішча каля Семяноўкі разліваецца,*
*Рыбы тут многа — не пералавіць.*
*Рыбаловы едуць па рыбу цэлымі днямі,*
*А некаторыя едуць проста адпачыць.*
*Семяноўка, развівайся, і расці багата —*
*Добры пакідаеш за сабою след —*
*Каб наступныя пакаленні жылі ў дастатку*
*Яшчэ многа, многа лет!*


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


— Яшчэ толькі тры дні, а пасля рай! — суцяшалі сябе хлапчукі, якія кампаніяй ішлі ў сваю школу. Яны мелі на ўвазе выхадныя, чатыры першыя дні мая. А слова май аж просіцца, каб гаварыць пра яго „рай”. Так дзейнічае вясна, самая чароўная пара года. Замест ісці ў школу, ногі нясуць на прыроду: у парк, лес, над рэчку... Адпачыць ад кантрольных, праверачных, конкурсаў... Таму выхадныя — цудоўная перадышка перад апошнімі месяцамі вучобы.

Цягам апошніх гадоў у нас з'явілася мода арганізавана праводзіць доўгія выхадныя. Звычайна ў гэтыя дні едзем на экскурсію або адпачываем на дачы. Іншыя карыстаюцца культурнымі праграмамі, якія прапануюць цэнтры культуры. Якраз тады шмат канцэртаў, інтэграцыйных мерапрыемстваў, спартыўных спаборніцтваў. У гэтым годзе адзначаем дзесяцігадовы юбілей далучэння нашай краіны да Еўрасаюза, таму канцэртаў і мерапрыемстваў будзе больш чым у мінулыя гады. Ці гэта паўплывае на наш выбар як правесці вольны час? Магчыма, так. Хоць не да канца. Добры адпачынак гэта не адны гульні! Частка з нас падумае пра душэўны зарад, і як штогод разам з бацькамі пойдзе ў паломніцтва. Іншыя, адпачываючы на прыродзе, возьмуць у рукі кнігу. Паколькі ўсё ж такі беларуская кніжка ў нас рарытэт, заахвочваем пачытаць нашу старонку, асабліва народную, страшную і смешную казку „Белы воўк”.

ЗОРКА

# Доўгі ўік-энд з казкай


Вучні з Бабік





## Увага, конкурс!!! (№ 18-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 11 мая, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

1.
Усю ноч
Не засынае.
З салавейкам
Ён спявае.
Сад расквеціў
Белым цветам,
Надыход чакае
Лета.
(м..)

2.
Лёгкі, але не падняць.
Сцелецца, ды не рагожа...
Бераг,
лужок
і стужок —
кожны схавацца ў ім можа.
(т....)

Адказ на загадкі № 16: Дзяцел, зязюля.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Агата Усціновіч і Наталля Паўлоўская з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластоку. Віншуем!

# БЕЛЫ ВОЎК

Жылі дзед і баба, мелі яны сабе адну дачку. Жылі яны бедна. Дзеду трэба было пайсці ў лес дроў насячы. Сячэ ён, сячэ, аж ідзе статак ваўкоў, а папярод самы большы воўк — белы. Прыходзяць да старога і гавораць:

— Стары! Мы цябе з'ямо.

Стары стаў кланяцца беламу ваўку, аж белы воўк адзываецца:

— Я чуў, што ў цябе, стары, ёсць харошая дачка: калі аддасі за мяне, то яшчэ паможам табе дровы ў вязку пазбіраць і падаць на плечы.

Стары пакланіўся і згадзіўся аддаць дачку за белага ваўка. Воўк назначыў дзень, калі яны прыйдуць жаніцца з дачкою; дапамаглі дровы старому забраць і адпусцілі яго.

Стары прыйшоў дадому, сказаў бабе і дачцэ, што ён бачыў у лесе і што мусіў абяцаць выдаць за белага ваўка дачку. Маці з дачкою паплакалі і ўжо чакалі таго дня, калі меў белы воўк прыйсці з вяселлем. Стары парадзіўся са сваёю бабаю, каб хаця самім уцячы ад ваўкоў, бо як не дагодзім ім, то і нас з'ядуць.

— Няхай астаецца дачушка адна, што ёй Бог дасць, а мы ўцякайма заўчасу за мора.

Убралі дачушку, як да шлюбу, благаславілі яе, а самі за тры дні наўпярод уцяклі.

## Адрыян МЯДЗВЕДЗЬ

— Я вельмі ганаруся сваёй бабуляй Валяй. Усіх яе вершаў я не ведаю, толькі тыя, што яна напісала для дзяцей. Мне падабаюцца такія, у якіх пра звяроў — пра ваўка, зубра, вавёрку, мышку... І пра грыбы. Гэта вершы пра прыроду. Люблю ездзіць з татам Андрэем і мамай Аняй у Медзвядзі, у вёсачку, што недалёка ад Семяноўскага вадасховішча. Зараз за хатамі там пачынаецца густы лес, поўны грыбоў! Народная назва вёскі ад прозвішча Мядзведзь, бо найбольш там Медзвядзёў. А вёска называецца доўга — Семенякоўшчына. Адтуль паходзіць мой дзедка Міхал, і там стаіць хата, у якой летам жыве бабуля Валя. А другая мая бабуля, Зося, жыве ў Беларусі, у вёсцы Эйсманты. У Эйсмантах — усе Эйсманты! У Эйсмантах у мяне ёсць сябры — Артур і Віялета. Ездзіў я летам у родную вёску маёй мамы, там размаўляў па-свойму. Там гавораць крыху інакш чым у Медзвядзях.

(лук)

Вучні з Беластока

# Мой вожык

Мама злавіла вожыка ў агародзе. Быў ён малы, круглы, як клубок, і калючы. Прынесла яго дахаты. Як палажыла гэты шэры клубочак у кутку, пад ложкам Алеся, так і ляжаў, не хацеў разгортвацца.

Хлопчык наліў вожыку малака ў сподак, а ён хоць бы што... Аднак уночы клубок перастаў баяцца і пачаў хлябтаць малако. Потым і ўдзень не баяўся нікога і тупаў па хаце.

З кошкаю Муркай ён не хацеў сябраваць. Асмелілася яна дакрануцца да клубка ды ўкалолася. Яна адразу сіганула на ложак і пырхнула. Калі вожык разгарнуўся і чмыхнуў, тая пачала адчытваць няпрошанага госця — сіпеннем ды харканнем. А затым пайшла сабе, задумаўшыся пра сваіх кацянят, што спяць на гарышчы.

І стала вожыку сумна.

Ён так схаваўся, што ніхто не мог яго знайсці. Толькі рана, калі бацька абуваўся, ён укалоўся аб клубок, які начаваў... у боце. Вось дзе прымасціўся!

Аднойчы мама сказала:

— Алесь, давай выпусцім вожыка.

— А навошта? — здзівіўся Алесь.

— Як навошта? Ён пойдзе да іншых вожыкаў, зробіць сабе хатку дый будзе жыць. І яму там будзе вельмі добра і весела.

— І панясем яго з табой у агарод? — спытаўся Алесь.

— Так, пусцім у грады і ён куды захоча, туды і пойдзе.

І мы занеслі Тупчыка ў агарод і выпусцілі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Вершы Віктара Шведа

### Лысы і шчарбаты

Сустрэў лысы шчарбатага
Пад уласнаю хатаю.
І кажа: — Не маўчы,
А лепш заскрыгачы.

— Калі я захачу,
Дык так заскрыгачу,
Што табе хіба
Валасы стануць дыбам.

### Нашы стыхіі

Скажыце дзеткі дарагія,
Якія маем мы стыхіі?
— Агонь і нашае паветра
І хіба яшчэ зямлі нетры.

— А што яшчэ, чым рукі мыем,
Скажыце дзеткі дарагія.
— Гэта напэўна будзе мыла
Адазвалася Людміла.

Дачка чакае сватоў і плача, заліваецца слязамі, як хаваючы нябожчыка. А быў у яе казельчык ды вельмі разумны; пытаецца ён:

— Чаго ты, паненачка мая, плачаш?

Яна яму расказала аб усім: як татка абяцаў яе выдаць за белага ваўка і што яны праз дзень ужо прыйдуць жаніцца.

Казёл жа супакоіў:

— Не бойся! Скідай з сябе ўсе гэтыя стужкі і ўборы, давай кулік саломы.

Убралі куль, як маладую, і паставілі на покуце за сталом. Сам казёл узяў набраў у рэзгіны сена, уклаў усярэдзіну дзяўчыну, закінуў сабе на плечы і давай уцякаць за мора. Аж сустракаецца на дарозе з тымі ваўкамі. Яны ўжо ішлі да маладой. Пытаюцца ў казла:

— Куды ты гэта ідзеш з сенам?

— У майго гаспадара будзе вяселле — дачку аддае за белага ваўка, іду за мора купляць розныя віны і прыправы і нясу сабе сена на дарогу.

Прыходзяць маладыя дахаты, сталі перад дзвярыма. Як завядуць, нібыта музыкі,— хацелі, мусіць, марша зайграць, але, вядома, як ваўкі: адзін танчэй, другі таўшчэй... і равуць пад хатаю. Уваходзіць сам белы воўк, глядзіць — нікога няма ў хаце, а толькі маладая сядзіць на куце ўбрана. Залез туды і малады, прыглядаецца да маладой, але ў яе вочы завешаныя; загаварвае да яе, а яна не адзываецца. Ён і так і сяк, а яна маўчыць. Не стала ваўку цярпення і як штурхне яе — аж глядзь: куль саломы ўпаў на зямлю. Як скокне воўк і ўсё яго вяселле, як затарзнуць усе гэтыя куль — разарвалі яго і растрэслі па саломінцы, а самі пабеглі даганяць казельчыка. Але пакуль яны дабеглі да мора, казёл ужо пераплыў на другі бок. Тады яны адзін на другога:

— Скачы ты ўперад у ваду!

А той:

— Скачы ты ўперад у ваду!

І ні той, ні другі не скача. А потым як папхнулі адзін другога — і ўсе патапіліся.

Казёл убачыў з таго боку мора, што ваўкі патапіліся, быў вельмі рады, паслаў дачку, каб знайсці бацькоў — дзеда ды бабу. Тыя даведаліся, што ваўкі патапіліся, вярнуліся назад да свае хаткі. Сталі там смела жыць ды пажываць і сталі ўжо цяпер багатымі. Купілі сабе каня ўжо. Стары ўжо не на сабе дровы насіў, а возам вазіў; дачушка ўжо сама ткала і прала і кашулі шыла і краіла. Казёл глядзеў у іх за парадкам.

## № 18 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 14:**

Ар, кот, білет, бульба, саванна, бал, цёця, пан, род. Губы, бусел, сіла, львіца, Ева, ён, танец, яр, ток, цуд.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вераніка Кардзюкевіч**, **Агата Усціновіч**, **Аляксандра Салавянюк**, **Куба Шэрэмэта**, **Міхал Сахарчук** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Крыстыян Стоцкі**, **Юлія Грыка** з Міхалова, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Міхал Паніквіцкі** з Бабік, **Катажына Вішнеўская** з Шудзялава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Jeż | | Sto | | Wiadro | Kadr | Mięta | | Źródło | Sok | Amator | |
| | | | | | Maksym / Wieża | | | | | | |
| Aorta | | | | Wolność | | | | | | | |
| | | | Wiaterek / Lina | | | | | | | Fakt | |
| Oddech | | Łoże / Smutek | | | | | Lakier | | Fa / Dar | | |
| Stodoła | Siła / La | | | | | Lider | | | | | |
| | | | | | Mocarz | | | | | | |
| Jama | | | | | | Mapa | | | | | |

# У Мокрым і Дубяжыне

У перадвелікодную суботу, 19 красавіка, сабраўся я ў Дубяжын на могільнік, каб прыбраць магілку дачушкі ды паставіць на ёй кветкі і лампадкі. Такі старадаўні звычай у хрысціянскім народзе. Палічыў я, што адпраўлюся цягніком а 5:32 і зараз жа з Падбелля вярнуся ў 9:28 (паводле раскладу язды цягнік з Беластока ў Чаромху адпраўляецца ў святочныя і выхадныя дні ў 8:13).

У цягнік пагрузіўся я з роварам. Паўгадзіны пазней выйшаў у Падбеллі. Варта адзначыць, што зараз на беластоцкай лініі памянялі шпалы і цягнік рухаецца з хуткасцю 60 км/гадз. На гэту дабрадзейнасць дзяржаўная чыгунка казала пасажырам чакаць амаль пятнаццаць год (абмежаванне хуткасці да 30 км/гадз. было ўведзена 30 мая 1999 года). Як жа тут усё перамянілася. Знікла на прыпынку ў Падбеллі пачакальня і мяжуючая з ёй прыбіральня. На месцы мураванага помніка даўніны (будоўля ўзнікла ў канцы XIX стагоддзя пры царскім парадку), ніжэй перонаў растуць кучаравыя кусты і шуміць пустазелле — адзінае месца, дзе пасажыр можа схавацца ад дажджу і аформіць фізіялагічную патрэбу. Гэтакі „прагрэс" падарыла пасажырам Прадпрыемства рэгіянальных перавозаў у XXI стагоддзі. Да гэтага пейзажу, на маю думку, не падыходзіць новы перон з памаляванымі балюстрадамі. Але такі сцэнарый намалявала не перавозачнае прадпрыемства, але Польскія чыгуначныя лініі (ПЛК).

Перонам, які спалучаецца з гравейкай Тапчыкалы — Падбелле, падаюся ў Мокрае. Пры нагодзе рашыў наведаць жончыну сястру Олю з сынам Юркам. Пляменнік у мінулым працаваў кандуктарам у Чаромсе, цягніком даязджаў на працу. У выніку рэструктурызацыі чыгункі стаў беспрацоўным. Зараз знайшоў прыстань у „Ікеі". Працуе манеўровым. Падстаўляе для выгрузкі вагоны з драўнінай на бакавым пуці і забірае паражняк.

Швагерку з сынам застаў я ў хаце. На стале ў кухні прыкмячаю шыкарна прыбраны кошычак са „свянцонкай". Абменьваемся навінкамі. Усё ж такі больш пяці гадоў не бачыліся. Перад домам спыніўся аўтамабіль.

— Гэта аўтакрама з хлебам, — паясняе Юрка.

— А што яшчэ можна там купіць? — цікаўлюся.

— Усё, чаго патрабуем, — канстатуе сваячніца. — Прыязджаюць дзве аўтакрамы з пякарняў у Боцьках і трэцяя з Вышак. Апрача хлебабулачных вырабаў прапануюць мясныя вырабы, напіткі, папяросы, могуць прывезці па заказе іншую патрэбную рэч у гаспадарцы. У час размовы пляменнік сказаў, што ў Мокрым пасяліўся Юрка Баена, паэт „белавежац". Рашыў затым яго наведаць.

— Першы дом з краю, з левага боку, едучы ў Дубяжын, — тлумачыў мне Юрка на развітанні.

Не пашанцавала мне спаткацца з Юркам Баенам. Праўда, два аўтамабілі стаялі на панадворку, але на мой дзвярны званок ніхто не адгукнуўся. Мабыць, гаспадары спалі. Усё ж такі быў ранні час. Набліжалася сёмая гадзіна...

З Мокрага ў Дубяжын як рукой падаць. Падарожжа доўжылася не больш чым пятнаццаць мінут. Пры загуменнай вуліцы за вёскай заглянуў я ў „каўфлянд" — так дубяжынцы назвалі піўны бар Янкі Томчука, удзельніка гурту „Родына". З Янкам мы добра знаёмыя. Ягоная жонка, Валя, выходзіць з Чаромхі. Абое выступаюць у калектыве. Штогод сустракаемся на канцэрце ў Чаромсе ў Гмінным асяродку культуры. Перадаю сябру здымкі, якія зрабіў я ў час іх апошняга канцэрта.

Заставалася ў мяне больш за паўтары гадзіны да ад'езду цягніка. Не даязджаючы да швагра, спыніўся я побач сядзібы Мікалая Томчука. Там сабралася кучка жыхароў са свянцонкамі. Па дамове бацюшка меў пад'ехаць а восьмай гадзіне і пасвяціць святочныя стравы. Як мне паяснілі прысутныя, асвячэнне адбываецца на вуліцы — на пачатку і ў канцы вёскі. На такім рытуале і мне прыйшлося пабываць. Пасля я наведаў яшчэ швагра Дзмітрыя. Пачаставаў ён мяне гарбатай і пячэннем. Затым падаўся я на могільнік. Магілку дачушкі прыбраў раней пляменнік Пеця з Дубяжына, сын пакойнай швагеркі Марыі. Я адно згаварыў малітву, паставіў вазон са свежымі кветкамі і запаліў на магілцы лампадку. У 9:28 адправіўся я з Падбелля дамоў. Так закончылася маё перадсвяточнае падарожжа ў Дубяжын.


Асвячэнне яек у Дубяжыне



Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Якое зацікаўленне «Нівай»

24 красавіка гэтага года ў вялікім і прыгожым газетна-часопісным кіёску «Рух» у Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая чытачы купілі ўсе экземпляры беларускага штотыднёвіка «Ніва» № 17 ад 27 красавіка 2014 года. Можна было яго купіць яшчэ ў кіёску «Рух» па вуліцы Пілсудскага і на галоўнай пошце па вуліцы Зіна.

25 красавіка г.г. падышоў я да кіёска з прэсай у Беластоку ў пачатку вуліцы Сянкевіча. Пытаю, ці ёсць «Ніва». «Беларускі штотыднёвік у нас у пастаянным продажы, — адказала маладая дзяўчына. — Зараз маю адзін экземпляр. Калі сёння ніхто не купіць, вазьму «Ніву» дадому сваёй сяброўцы».

У суботу, 26 красавіка г.г, паехаў я роварам па «Ніву» № 17 у Нараўку. У добра абяспечанай харчовымі прадуктамі спажывецкай краме ГСу (каля помніка) на паліцы было яшчэ чатыры экземпляры нашага роднага тыднёвіка і я іх купіў для трох чытачоў, у тым ліку двух пастаянных у Плянце і аднаго ў Новым Ляўкове. Колькі экземпляраў «Нівы» прадаюць на пошце, я не даведаўся — у Нараўцы па суботах яна не працуе.

У найбольш населенай у гміне вёсцы Нараўцы (у ёй каля тысячы жыхароў) зацікаўленне «Нівай» тамашніх жыхароў малое. Яе тут купляюць усяго дзве або тры асобы. Купіць наш беларускі тыднёвік прыязджаюць перш за ўсё жыхары Альхоўкі, Новага Ляўкова, Міклашэва, Семяноўкі, Плянты і Тарнаполя. З усіх гмінных радных (іх пятнаццаць) «Ніву» час ад часу чытаюць радныя са Старога Ляўкова, Міклашэва і Скупава (ён ліставоша). З солтысаў (іх у гміне 25) тыднёвік беларусаў у Польшчы чытае пастаянна солтыс Новага Ляўкова і час ад часу солтыс з Плянты.

У Нараўцы на кожным кроку пачуеш беларускую мову, а чытаць па-беларуску людзі развучыліся. У «Ніве» — як ні ў адной іншай газеце — амаль кожны тыдзень публікуюцца цікавыя допісы і артыкулы пра людзей ды культурна-асветныя мерапрыемствы і важныя справы з гэтай гміны (рэдакцыя «Нівы» мае тут здаўна двух сваіх карэспандэнтаў). А чытае «Ніву» толькі жменька людзей. Цяпер людзі сталі больш абыякавымі, закрытымі. Ім, мабыць, не трэба беларускай мовы...




Зараз у адзінай у Нараўчанскай гміне вялікай і прыгожай школе ёсць праблемы з навучаннем беларускай мове. З году ў год усё менш навучэнцаў роднай мовы. Па розных прычынах. Бывае таксама, што са звычайнай ляноты таго ці іншага вучня. Як вядома, прадмет гэты — неабавязковы. То і навошта яму вучыцца? Ці падумаў ён, што калі пойдзе на працу ў мясцовую гмінную ўстанову, там зараз беларуская мова патрэбная? Такі пасля заканчэння школы «Нівы» не будзе чытаць. І вельмі шкада. У Нараўцы заняткі па беларускай мове вядуць вопытныя настаўніцы. Яны прывіваюць любоў да роднай мовы.

Па ўсім відаць, не чытаюць «Нівы» за малым выключэннем, між іншым, чыноўнікі Гміннай управы. А яны ж маюць дзесяць працэнтаў дадатку да зарплаты «за веданне беларускай мовы»! Чатыры гады таму нараўчанскія радныя прынялі закон аб увядзенні беларускай мовы як дапаможнай у адміністрацыйным карыстанні. Зараз, калі беларуская меншасць з году ў год знікае, з'явіліся фінансавыя сродкі ў падтрымку і развіццё беларускай мовы. Карацей кажучы, дзякуючы беларускай мове можна больш зарабляць. Вось, напрыклад, у вышэйзгаданай гміннай управе.

На працягу васьмі гадоў „Ніву" у нараўчанскай гміннай управе я бачыў у кабінетах войта Мікалая Павільча або сакратара гміны Міхала Бароўскага (я тут часты наведвальнік, раней чатыры гады быў радным, а зараз ужо чацвёрты год з'яўляюся солтысам). Нашай беларускай газетай цікавіцца таксама гмінная касірша Анна Паўловіч (яна закончыла Гайнаўскі белліцэй). Калі заходжу ў яе пакойчык у чацвер або ў пятніцу, абавязкова завядзем гаворку пра новае ў „Ніве". Пра тое, аб чым піша родны штотыднёвік мы часта гутарым з сакратаром. Ён ведае на памяць прыгожыя беларускія вершы, якія друкаваліся ў „Ніве". Часам пры нашай сустрэчы ахвотна іх дэкламуе. Ён і яго жонка наш тыднёвік чытаюць дома.

(яц)

# У Заблудаў

**Сённяшняя язда сродкамі нашай тутэйшай публічнай міжгародняй камунікацыі нагадвае пагоню за ўцякаючым нашым непрацяглым нядаўнім мінулым. Цягам некалькіх дзесяткаў гадоў наша эфемерная „камуна” сяк-так наладзіла мабільнасць тутэйшага насельніцтва дзеля неабходнай сучаснаму прагрэсу ўрбанізацыі. Урбанізацыя тутэйшага насельніцтва здзейснілася і ягоная мабільнасць перакацілася ў новыя гарызонты — ад нядаўняй масавай мабільнасці асталіся ў нас бадай толькі слабеючыя канвульсіі...**

Калі ўлажу ў аўтобус, што раніцай едзе ў Дарожкі, там ужо прысутны адзін пасажыр, а я — другі. Прыпынак перад Юхнаўцом сядае пажылая жанчына, якая і да Юхнаўца не даяздае, злазячы з машыны каля тамашніх могілак. Я знімаюся з аўтобуса ў Злотніках...

Злотніцкая вуліца адыходзіць ад шашы з Беластока ў Дарожкі і Войшкі. Побач сутыкнення гэтых дзвюх камунікацый невялікая драўляная капліца прысвечаная Іаану Хрысціцелю, завершаная візантыйскім крыжом. Пастаўленая яна там сто дваццаць гадоў таму. Гэта дастатковы час дзеля таго, каб людская памяць расцярушыла інтэнцыю яе ўзвядзення; магчыма, што яна ўзводзілася як універсальная малітоўная панацэя ад тых усялякіх бед, якія ў той час трывожылі людскія душы. Вось адны звесткі падаюць, што людзі паставілі яе як абярэг ад прыродных стыхій пасля таго, як у 1888 годзе разгулялася там тарнада з градабоем. Іншыя ж звесткі мяркуюць, што гэта падзячная ахвяра за цудоўнае выратаванне цара Аляксандра II з чыгуначнай катастрофы, таксама ў 1888 годзе; гэтая падзея розным чынам ушаноўвалася ва ўсёй імперыі...

Хаты ў Злотніках розныя, стаўлялі іх, верагодна, розныя майстры. Адна з хат, з багатымі ажурнымі драўлянымі аздобамі, прыцягвае маю ўвагу. Паказваецца і яе ўласнік, які паведамляе, што хата была пастаўлена ў 1935 годзе. На маю цікавасць пра майстра, які выканаў вонкавы дэкор хаты, даведваюся, што загінуў ён у 1939 годзе ў баях пад Вейгеровам. Чалавека няма ўжо семдзесят пяць гадоў у жывых, а ягонае скрупулёзнае майстэрства надалей захапляе.

Адзін з чарговых панадворкаў пазначаны ад вуліцы двума крыжамі. На бетонным пастаменце аднаго візантыйскі крыж і надпіс: „Сей крест сооружен от глада убительства труса потопа огня меча спаси и сохрани нас Господи 1938 г.”. А другі крыж побач — лацінскі, з гладкай нержавейкі, без слоў. Гэтыя два крыжы быццам прыгадваюць вядомы афарызм Станіслава Ежы Леца „Ex Oriente lux, ex Occidente luxus” (з Усходу святло, з Захаду раскоша). На панадворку за імі адбылася, здаецца, канверсія ў выгаднейшым напрамку...

У такім жа напрамку адбылася і канверсія чарговай вёскі, Клевінова. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „Klewinowo, wieś nad rzeką Gniłą, pow. białostocki, gm. Zawyki, 16 wiorst od Białegostoku, 878 dziesięcin. Należała niegdyś do monasteru w Supraślu”. А пазней вёска, згодна нашаму тутэйшаму канфесійнаму вектару, перакацілася ў каталіцтва. На высокім узгорку пася-



Элементы хатняга дэкору ў Злотніках

рэдзіне вёскі ўзвышаецца невялікая цагляная капліца святой Анны, узведзеная ў 1907 годзе ў якасці абярэгу ад заразных хвароб.

Чарговая капліца святой Анны знаходзіцца ў чарговай вёсцы, Крыніцкія. Магчыма, што назва апошняй пайшла ад недалёкіх крыніц згаданай рачулкі Гнілой. А сама капліца з'явілася ў вёсцы ў выніку прыватнага ахвяравання ў 1980-х гадах грунту і будынка хаты для культавых мэт. З ходам часу адбывалася разбудова аб'екта: будынак быў узбуйнены, з'явілася на ім вежа, а побач — кальварыя. Жыхары, з якімі я завёў кароткую гутарку, вельмі ганарыліся сваім храмам, у якім святары з Заблудава адпраўляюць малебны ў кожны святочны дзень.

Дарога з Крыніцкіх у гістарычны Заблудаў выклікае асацыяцыю з Блудаўскай пушчай. Калісь, калі сюды пасяляліся пасяленцы з тых бакоў свету, пра якія мо ведаюць, а мо толькі згадва-



Намагільнік Тадэвуша Хшаноўскага

юцца даследчыкі даўніны, пушча скарачалася. Сёння, калі пасяленчы вектар змяніў свой напрамак, колішняя Блудаўская пушча здаецца вяртаць сваю ландшафтную спадчыну; з Крыніцкіх у Заблудаў, як у пагаворцы — сем вёрст і амаль усё лесам.

Энцыклапедычны даведнік Брокхаўза і Эфрана: „Заблудово — местечко Гродненской губернии, Белостокского уезда, в 18 верстах от уездного города, на реке Мелетине. Основание его относят к концу XV или началу XVI ст. В 1568 г. учреждена здесь при правосл. мужск. монастыре (упразднённом в 1824 г.) типография, переведенная затем в Супрасльский монастырь. Первыми наборщиками были Ив. Федоров и Петр Мстиславцев, бежавшие из Москвы. В З. напечатаны в 1569 г. — евангелие учительное, в 1570 г. — псалтирь”.

Зорны час Заблудава выпаў на XVI стагоддзе. Але і ў толькі што мінулым XX стагоддзі горад трымаўся галоўнай плыні цывілізацыйных працэсаў. Пра гэты гарадскі подзвіг сведчыць ландшафтны дакумент, што захоўваецца на подступах гістарычнай пушчы да Заблудава. Гэта агромністы тэрыкон усялякіх адкідаў, з якімі заблудаўскае насельніцтва шагала ў нагу з новай, пластмасавай эпохай. Зняволеныя ў сінтэтычных матэрыялах хімічныя элементы і часціцы вядуць там прыродна-вызваленчае змаганне, выходзячы на прадвесні на волю ў выглядзе абнадзейваючага ўсялякае дыханне хларафілу.

На абмежках горада чарговая памятка XX стагоддзя, памятка галакоста — кіркут, яўрэйскія могілкі. У мінулым Заблудаў быў важным цэнтрам яўрэйскага жыцця — тут адбываліся жыдоўскія з'езды з усяго Вялікага Княства Літоўскага. У канцы XIX стагоддзя доля яўрэйскага насельніцтва Заблудава падыходзіла пад 70%, эміграцыя ў Амерыку ў 1920-я гады панізіла гэтую долю да паловы. У лістападзе 1942 года заблудаўскія яўрэі былі вывезены ў лагер смерці ў Трэблінку... Кіркут быў разбураны гітлераўцамі, намагільныя мацэвы былі вывезены пад маставую дарогі на Маскву... Зараз кіркут абведзены невысокім мурам, уцалелыя мацэвы ляжаць гарызантальна, няма на іх эпітафій, некаторыя абрастаюць мохам. „Захаваўся” таксама охер — прамавугольная грабніца аднаго са знатных жыдоў горада. Кіркут — гэта адзіная захаваная памятка па заблудаўскіх жыдах.

Каля кіркута прайшоў я выпадкова, бо мэтанапраўлена кіраваўся я ў бок іншых могілак — да могілак святога Роха. Беластоцкі карэспандэнт пецярбургскага тыднёвіка „Край” ад 25 сакавіка 1892 года пісаў: „W d. 28 ubiegłego miesiąca, w Zabłudowie, tłumy włościan, liczni sąsiedzi oraz przybyli z Warszawy inżynierowie drogi żelaznej terespolskiej, oddali ostatnią przysługę zmarłemu na parę dni przedtem, w dziedzicznej wsi Topolany, w powiecie białostockim, ś. p. Tadeuszowi Chrzanowskiemu, inżynierowi, b. dyrektorowi drogi terespolskiej, konstruktorowi mostu żelaznego na Wiśle, inicjatorowi budowy dróg poleskich, zacnemu obywatelowi, zasłużonemu specjaliście, najlepszemu sąsiadowi, koledze i przełożonemu. Obecny dyrektor kolei terespolskiej, p. L. Gnoiński, wraz z podwładnymi nieboszczyka, pp. Bielickim, Brzezickim i Czajkowskim, oprócz złożenia na trumnie wieńca od rady zarządzającej i drugiego od urzędników i oficjalistów kolei terespolskiej, na własnych barkach zanieśli ciało z kościoła na cmentarz zabłudowski”.

Тадэвуш Хшаноўскі нарадзіўся ў 1821 годзе. Пасля завяршэння ў 1844 годзе навукі ў Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным тэхналагічным інстытуце (шэсцьдзесят гадоў пазней выпускніком гэтай вучэльні стаў вядучы беларускі грамадска-палітычны дзеяч Вацлаў Іваноўскі) працуе пры пракладцы маскоўска-пецярбургскай чыгуначнай лініі. У 1859-64 гг. працуе пры пабудове першага ў Варшаве сталага Александрыйскага моста пад кіраўніцтвам Станіслава Кербедзя. У 1866 годзе займаецца пабудовай згаданай Варшаўска-Тэрэспальскай чыгункі, завершанай гадам пазней, і якой кіруе да 1882 года. Але круг ягонай практычнай дзейнасці намнога шырэйшы. Ён становіцца вядучым канструктарам жалезных мастоў, м.інш. з Тэрэспаля ў Брэст (у 1868 годзе) ды двух'яруснага Гданьскага моста ў Варшаве (у 1875 годзе), па якім тады пайшоў чыгуначны і дарожны рух; на ягоным месцы сёння той двух'ярусны Гданьскі мост, па якім заміж цягнікоў ездзяць цяпер трамваі. Для чаго спатрэбіўся чыгуначны Гданьскі мост у Варшаве? Ён выводзіў шырокакалейную лінію з Тэрэспальскага (цяпер Усходні) вакзала цераз Ковельскі (цяпер Гданьскі) на Таварны вакзал (цяпер музейны Галоўны) за левым берагам Віслы, дзе чыгуначныя пуці былі прымерканы да заходнееўрапейскіх нормаў. Тадэвуш Хшаноўскі быў таксама адным з вядучых будаўнікоў галоўнай лініі Прывіслінскай чыгункі, якая ў 1877 годзе прапягла з Ковеля ў Млаву. Гэта знакавыя заслугі нашага тапалянскага земляка. Па будаваных ім чыгунках сёння ездзяць цягнікі з Варшавы ў Мінск, Люблін, Гданьск, Ольштын...

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага згадвае пра Заблудаў м.інш. „Podczas powtórnej wojny szwedzkiej Karol XII, pospieszając w r. 1706 na Litwę dla wyparcia z niej wojsk Augusta II, zatrzymał się tu cały dzień 10 stycznia i obozował pod miastem w polu, pomimo tęgich mrozów”. Вось менавіта тая Паўночная вайна і ўзбудзіла хвалю смяротнай халеры, якая неўзабаве спарадзіла працьму нябожчыкаў, якім трэба было шукаць новых месцаў пахавання, бо існуючыя да таго часу тамашнія могілкі запоўніліся. У 1840-х гадах ураджэнец Заблудава Казімір Асташэўскі ўзвёў там новую, мураваную капліцу святога Роха ды абвёў могілкі каменным мурам. Хавалі на іх мясцовую знаць; у 1905 годзе гэтыя неабшырныя могілкі былі закрыты.

Цэментны намагільнік Тадэвуша Хшаноўскага добра захаваўся, надпіс на ім выразны. І стаіць ён, пахілены толькі выкараняючым усялякія чалавечыя новаўвядзенні часам, недалёка ад прыгожанькай тамашняй капліцы.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Нашы ліцэі і мы (2)



Прайшло яшчэ некалькі гадоў, я закончыў універсітэт — і адразу пачаў працаваць у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Там прапрацаваў усё сваё працоўнае жыццё аж да пенсіі, трыццаць пяць гадоў. Умовы навукі і працы ў Гайнаўскім белліцэі былі яшчэ больш цяжкія чым у Бельску. Бельскі белліцэй знаходзіўся тады на апошнім, трэцім паверсе школьнага будынка пачатковай школы, на скрыжаванні вуліц Міцкевіча і Відаўскай. Было там цесна, холадна, не было праточнай вады, не было гімнастычнай залы, а прымітыўны туалет знаходзіўся за нейкіх метраў пяцьдзесят ад школы. І хоць туліліся мы на апошнім паверсе, як на буслянцы, то ўсё ж такі гэты будынак быў школай... Марай дырэктара Кастыцэвіча і іншых выдатных бяльшчан было мець свой уласны школьны будынак для ліцэя. І пасля доўгіх намаганняў ім удалося пабудаваць новы прыгожы школьны будынак, у прыгожым і, можна сказаць, святым месцы, што для Яраслава Кастыцэвіча таксама мела немалое значэнне. На гэтым месцы раней былі праваслаўная царква і манастыр. Так распачаўся новы перыяд у жыцці Бельскага беларускага ліцэя...

Гайнаўскі беларускі ліцэй змяшчаўся спачатку ў бараку, у якім хоць увесь час адбываліся нейкія рамонты, якія моцна перашкаджалі навучальнаму працэсу, але барак надалей аставаўся баракам. Не было ў ім напачатку не толькі бібліятэкі, прадметных кабінетаў, прафіляваных класаў, але не было нават праточнай вады і туалетаў на месцы. Прымітыўны туалет знаходзіўся — так як у бельскім ліцэі — метраў за пяцьдзесят ад школы. На арганізацыю модных тады сустрэч школьнай моладзі і настаўнікаў ліцэя з выдатнымі людзьмі ці прыезджымі артыстамі адпаведныя ўлады згоды не давалі, бо „ў вас варункаў няма" — тлумачылі. Але палепшыць гэтыя ўмовы таксама не спяшаліся...

Час аднак не стаяў на месцы, жыццё прадаўжалася, развівалася, кіпела, праца ў ліцэі таксама. Адны вучні і настаўнікі адыходзілі, другія прыходзілі. І ліцэй увесь час змяняўся, развіваўся, разрастаўся: як вонкавы выгляд школьнага будынка, так і тое чаго і як навучалі ў ім.

Пераломным перыядам у жыцці і развіцці Гайнаўскага беларускага ліцэя быў 1993 год. Ад верасня гэтага года ліцэй змяшчаецца ў новым, прасторным, прыгожым будынку. На выгляд — гэта ўжо школа XXI стагоддзя. І называецца ён пачаў: II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання. І вельмі добра, што ўспелі ў яго перасяліцца, бо хутка потым стары будынак проста заваліўся. Асталіся толькі ўспаміны аб ім. І найчасцей добрыя ўспаміны. Старэйшыя новыя выпускнікі любяць паўтараць, што ў сценах гэтага старэнькага ліцэйскага будынка была заўсёды добрая беларуская сямейная атмасфера.

Новы школьны будынак развязаў многа важных праблем, а найважнейшая з іх — набор большай колькасці навучэнцаў. Калі ў старым будынку з вялікімі цяжкасцямі можна было змясціць толькі па два паралельныя класы, то цяпер — чатырыпяць паралельных класаў. Значыць, не толькі палепшыліся ўмовы, але і пачала хутка павялічвацца беларуская ліцэйская сямейка. Толькі цяпер школьная дзейнасць магла пашырацца ва ўсіх напрамках. І яна пашыралася і надалей пашыраецца. І так у 1994/95 навучальным годзе налічваецца ўжо ў ліцэі 14 аддзелаў, у якіх навучаецца 390 вучняў; у 1995/96 годзе — 16 аддзелаў і 450 вучняў; у 1997/98 годзе — 18 аддзелаў і 509 вучняў.

Далей на школьніцтва навальваецца новая бяда — новая перастройка. У 2000 годзе, у верасні, распачаў навуку ў школе апошні набор у чатырохкласны ліцэй і другі набор у гімназію — і школа пачала называцца ўжо не ліцэем, а Комплексам школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы. У гэтым школьным годзе ў ліцэі было 19 аддзелаў і 547 ліцэістаў.

Ад наступнага школьнага года ўжо паслядоўна пачала памяншацца колькасць класаў, аддзелаў і ліцэістаў чатырохкласнага ліцэя. У навучальным годзе 2001/02 было ўжо чатыры класы, 14 аддзелаў і 408 ліцэістаў. У 2002/03 годзе — два класы і 9 аддзелаў і 272 ліцэісты. У гэтым жа годзе распачаў навуку ў школе першы клас новага, трохкласнага ліцэя. Усе гэтыя гады не былі для школы лёгкімі, ішла рэарганізацыя. І школа зноў стала моцна перапоўненай, зацеснай. Гэта была ўжо не проста школа, а вучэбны камбінат. У яе сценах знаходзіліся цяпер два тыпы ліцэяў і гімназія — Вавілон, адным словам...

Прайшлі яшчэ гады, усё памаленьку прыціхла, уладкавалася, увайшло — як кажуць — у сваю звычайную каляіну. Цяпер наш Комплекс састаўляюць трохгадовы ліцэй і гімназія. Час спадзявацца новых школьных рэформ, бо і так аж больш дзесяці гадоў прайшло ад апошняй. А нашае ведамства без рэформ жыць не ўмее і не хоча і аж ірвецца да новых. І калі яшчэ не змайстравала новай, то, напэўна, змайструе.

І нягледзячы на ўсе гэтыя перашкоды да перыпетыі беларускія ліцэі жывуць, развіваюцца і з кожным годам выпускаюць усё новых і новых абітурыентаў. Кожны наш ліцэй выпусціў іх ужо тысячы, падмацоўваючы нашу гаспадарку новымі свежымі сіламі. А не будзь гэтых ліцэяў, многія тутэйшыя дзяўчаты і хлопцы не сталі б тымі, кім сталі.

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**




Калісьці так званы „правадыр сусветнага пралетарыяту" Уладзімір Ленін казаў, што „найважнейшым з мастацтваў для нас з'яўляецца кіно". З той пары мінула амаль сто гадоў. Час паказаў, што кіно для нас можа і не найважнейшае з мастацтваў, але далёка не малазначнае. За праміналае стагоддзе людзі прайшлі ад дзіцячага захаплення фільмамі як такімі да іх крытычнага асэнсавання.

Многа змен адбылося і з фільмамі, якія былі агучаны па-беларуску. За савецкім часам такія мастацкія стужкі ствараліся выключна на кінастудыі „Беларусьфільм". Потым за часамі перабудовы ў Беларусі фільмы, не створаныя на той кінастудыі, перакладаліся на беларускую мову. З уладай Лукашэнкі гэтага ўжо не адбывалася на дзяржаўным узроўні. Аднак з цягам часу пачалі з'яўляцца руплівцы, што самастойна перакладалі фільмы, асабліва англамоўныя, на беларускую мову. Такая тэндэнцыя захавалася да гэтай пары, а нават набыла больш размах і новыя фарматы. Сведчаннем таму з'яўляецца сайт „Кінаконг. Кіно па-беларуску", які месціца па адрасе http://kinakong.by.

Галоўная старонка сайта выглядае даволі просценька, хоць і яскрава. Уверсе пад выйсцямі ўсяго толькі на тры рубрыкі месяцца выявы з фільмаў, якія нядаўна выйшлі ў шырокі пракат альбо гэтае выйсце чакаецца неўзабаве.

Ніжэй старонка падзяляецца на дзве часткі — „Апошнія навіны" і „Апошнія трэйлеры". У першым разам з трэйлерам падаюцца фотаздымкі кадраў фільма і больш падрабязнае апісанне стужкі. У другой — апісанне больш сціплае, хаця трэйлер там таксама прысутнічае.

„Кінаконг — беларускамоўны праект пра кіно. Тут рэгулярна з'яўляюцца беларускія трэйлеры, агляды, рэцэнзіі пра цікавае нам кіно, навіны пра беларускія пераклады і іншыя тэматычныя матэрыялы", — такое вызначэнне на старонцы „Пра нас" далі свайму праекту ягоныя натхняльнікі. Праўда, „пра іх" там больш нічога не распавядаецца, акрамя таго, што „яны" маюць дачыненне да праекта „Рухавік" www.ruhavik.com — забаўляльнага рускамоўнага сайта. І ўжо менавіта на ім можна знайсці падрабязны расповед пра стваральнікаў „Кінаконга", які бярэ свой адлік ад лета 2012 года.

„Група энтузіястаў пачала ствараць якасны беларускамоўны дубляж трэйлераў сусветных кінапрэм'ераў. Першы беларускамоўны трэйлер, створаны да фільма «Цёмны рыцар: Адраджэнне», ужо сабраў за некалькі тыдняў болей за тры тысячы праглядаў. Гэта пакуль толькі пачатак, разлічваюць аўтары беларускай агучкі", — распавядаецца на „Рухавіку".

«Перакладаць трэйлеры — справа, канешне, не такая працаёмкая, як агучваць поўнаметражныя фільмы. Але таксама патрабуе прафесіяналаў. У нас у камандзе прафесійныя акторы, перакладчыкі. Працуем на гукастудыі», — кажа ініцыятар праекта Андрэй Кім.

Другая рубрыка „Рэцэнзіі" гэта, па сутнасці, паўтор „Апошніх навін", дзе да кучы сабраны кінаагляды з фотаздымкамі і трэйлерамі. Праўда, да таго ж там дадаецца нейкі „агульны бал", але незразумела, хто яго выстаўляе і якім чынам, бо знайсці на сайце нейкую „галасавалку" не ўдалося. Пэўна, гэты „агульны бал" выстаўляюць уласна ўладальнікі сайта, зважаючы выключна на ўласныя меркаванні.

Старонка „Трэйлеры" змяшчае ўсе трэйлеры, якія змешчаны на сайце, аналагічным чынам паўтараючы функцыю вышэй апісанай старонкі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**






## Проста выконваў сваю місію

# 70 гадоў з дня смерці Ільдэфонса Бобіча

Прозвішча Ільдэфонса Бобіча ўпершыню мне давялося не пачуць, а ўбачыць. У адну з вандровак дваццацігадовай даўніны мы спыніліся з сябрамі ў Іўі каля мясцовага касцёла. На тэрыторыі храма стаіць надмагільны помнік, які сведчыць, што тут пахаваны пробашч і дэкан Ільдэфонс Бобіч. Ужо потым стала вядома, што гэта адзін з пачынальнікаў беларускага хрысціянскага руху.

Нарадзіўся святар і публіцыст Ільдэфонс Бобіч 10 студзеня 1890 г. у вёсцы Дзедзінцы пад Друяй. Навучаўся ў Ковенскай гімназіі, якую скончыў у 1909 г. Падчас навучання далучыўся да беларускага руху, пачаў пісаць на беларускай мове пад псеўданімам Пятро Просты. Першае яго апавяданне „Сьлёзы" было надрукавана 25 студзеня 1907 г. у газеце „Наша ніва". Пасля сканчэння гімназіі ў 1909 г. паступіў у Віленскую духоўную семінарыю — Alma Mater дзесяткаў беларускамоўных святароў. Пасля яе заканчэння накіраваны ў Рым, дзе вучыўся ў 1911-1913 гг. Атрымаў блаславенне папы рымскага Пія X для ўсяго беларускага народа, а таксама для выдання беларускай каталіцкай газеты „Беларус" („Biełarus"), што выходзіла ў Вільні ў 1913-1915 гг.

27 ліпеня 1915 г. Ільдэфонс Бобіч атрымаў святарскае пасвячэнне. Працаваў у Ідольцы. Адам Станкевіч згадвае Бобіча ў кнізе „Родная мова ў сьвятынях", што той карыстаецца беларускай мовай падчас набажэнстваў. З 1920 г. ксёндз Бобіч служыў вікарыем кафедральнага касцёла ў Вільні. Адначасна выкладаў у Віленскай духоўнай семінарыі. Прымаў удзел у з'ездзе беларускага каталіцкага духавенства ў ліпені 1921 г. Выступіў з рэфератам пра беларускае рэлігійнае выдавецтва. Тады была ўтворана арганізацыя беларусаў-каталікоў „Светач", але ёй адмовілі ў рэгістрацыі.

У гэты час Бобіч напісаў і прадставіў рэцэнзентам працу „Нядзельныя Евангельлі й навукі" ў трох тамах. Цэнзар ксёндз прафесар А. Крайяліс даў сваю згоду на друкаванне кнігі. Сакратар біскупскай курыі ксёндз І. Халецкі, перш чым даць цэнзарскі дазвол на подпіс біскупа, даслаў ліст у Варшаву езуіту Шчапанскаму, у якога пытаўся, ці можна выдаваць гэтую кнігу. Адказ быў адмоўны, але ксёндз Крайяліс напісаў біскупу Матулевічу пра беспадстаўнасць забароны, і Бобіч атрымаў дазвол на выданне сваёй працы.

У 1923 г. ксяндза Бобіча прызначылі пробашчам у Германавічы на Дзісеншчыне (цяпер Шаркоўшчынскі раён). Там ён прыцягваў весці набажэнствы на беларускай мове і стварыў моладзевы каталіцкі гурток. З 1930 г. стаў пробашчам Петрапаўлаўскага касцёла ў Іўі. Адначасна быў пробашчам і дэканам Вішнеўскага дэканата.

Ільдэфонс Бобіч супрацоўнічаў з беларускім часопісам „Крыніца". У час нямецкай акупацыі падрыхтаваў да друку беларускамоўныя зборнікі казанняў „Роднае слова ў касцёле" і „Навучайце ўсе народы", а таксама працу, прысвечаную філасофіі малітвы, якія засталіся ў рукапісе. Ён планаваў напісаць яшчэ чатыры тамы казанняў, але не паспеў.

У 1942 г. святар быў арыштаваны немцамі, утрымліваўся нейкі час у вязніцы. Неўзабаве пасля таго, як быў выпушчаны з турмы, памёр 28 красавіка 1944 г. Пахаваны каля Петрапаўлаўскага касцёла. З таго часу Іўе ажно сорак гадоў не мела пастаяннага святара.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# „Гумары” Станіслава Кагуцюка



Сябры і знаёмыя прафесара Лявона Тарасэвіча заўсёды гатовыя падтрымаць яго ініцыятывы. На крынскія акцыі прыедуць з любога кутка краіны ў любую хвіліну. Адны прыязджаюць сюды, каб падзяліцца сваімі творчымі дасягненнямі, іншых прыцягвае проста надта гасцінная кампанія Фонду „Віла Сакратэс”. Прыходзяць таксама крынчане, шчыра зацікаўленыя навінкамі культурнага жыцця мясціны.

А навінкі Сакратаў фонд выпускае амаль кожны месяц. Такім чынам красавік 2014 года праходзіць на хвалі „Гумару” Станіслава Кагуцюка. Адкрыццё „вясёлай” выстаўкі ў галерэі „Крынкі”, што па вуліцы Пілсудскага, адбылося без удзелу аўтара. З надта цікавай творчай біяграфіяй прэзентаванага мастака пазнаёміла сабраных спецыяльна падрыхтаваная брашура аўтарства Гражыны Цыбульскай.

У ёй чытаем, што Станіслаў Кагуцюк нарадзіўся на Валыні ў 1933 годзе. У 1945 годзе ў выніку рэпатрыяцыі разам з сям'ёй апынуўся на Суседняй Холмшчыне. Яго жыццёвая мара пра вяртанне на бацькаўшчыну пакуль не збылася. Мастак прыжыўся ў аднапакаёвай, уласнаручна пабудаванай хатцы без электрычнасці і вады. Там, пры святле чатырох васковых свечак, паўстаюць усе яго карціны.

На хлеб Кагуцюк зарабляў печніком. Адпрацаваўшы пяцьдзесят гадоў, дачакаўся заслужанай пенсіі. Мастацтвам заняўся на саракавым годзе жыцця. Тут прафесіянальнай парадай паслужыў яму вядомы холмскі мастак-прымітывіст Юліян Байкевіч. З брашуры даведваемся таксама, што першыя карціны Кагуцюка ўзніклі на рукавах ягонай кашулі. Зялёна-сінія пейзажы на працягу шасці гадоў ствараліся ў аўтарскай майстэрні самароднага мастака пад шыльдай „маляванне на тканіне ручное”.

Новы раздзел у творчасці вясковага мастака пачаўся ў 1986 годзе. Тады менавіта Кагуцюк атрымаў другую ўзнагароду на Міжнародным конкурсе сатырычнага рысунка „Сатырыкон” у Легніцы. Там і пачалася яго ўдалая прыгода з „гумарам”. Два гады пазней з Міністэрства культуры і мастацтва прыйшоў бестэрміновы дазвол на выконванне прафесіі мастака. Адчыніліся дзверы самых лепшых мастацкіх галерэй і салонаў краіны. У ліку шматлікіх вылучэнняў на рахунку Кагуцюка апынулася і прэмія Оскара Кольберга, прысвоеная „ў знак прызнання заслуг перад народнай культурай”. Мастак атрымаў яе на Каралеўскім замку ў Варшаве ў 2012 годзе.

Сорак адно́лькавых па форме карцін Кагуцюка, створаных у 1996-2014 гадах, сталі даступнымі і наведвальнікам крынскай галерэі. Прэзентаваныя тут работы паходзяць выключна з калекцыі Гражыны Цыбульскай. Іх тэма кранае складаныя міжлюдскія і сацыяльныя адносіны. Цікавым з'яўляецца таксама іх мастацкае афармленне. Кантраст цёмнага фону і пакрываючых яго жывых колераў простых выяўленняў, дадаткова ўзбагачаных белымі подпісамі, прыцягваюць увагу гледача. Прамаўляе непасрэднасць пераказу і вялікая дыстанцыя мастака да акружаючай рэчаіснасці. „Uważaj, kochane złotko, bo wejdziesz w błotko”, „Nie bądź za słodki, bo cię rozliżą, nie bądź za miękki, bo cię rozdepczą”, „Zdarza się czasem, że na rozkaz jołopa darmo biją chłopa” — гэта толькі некаторыя з прадстаўленых у той серыі пераспрогі.

— З жыцця ўзятае, — падсумоўвае ўбачанае крынская пенсіянерка Анна.

— Чыстая, шчырая праўда, — прызнаецца Лявон Крыштаповіч.

— Што гэта такое „Памяняю жонку на сабаку”? — устрывожылася турыстка з Варшавы.

— Відавочна больш яму даспадобы сабака, — адказвае варшавянцы Лявон Крыштаповіч.

— Дзе аўтар гэтых жахлівых карцін? Хачу яго пабачыць! — раздаецца патрабаванне выразна ўсхваляванай жанчыны. — Не падабаецца мне яго стаўленне да жанчын. Мае адносіны з мужам надта ўдалыя, таму я не пагаджаюся з прадстаўленай тут рэчаіснасцю.

— Ваша стаўленне сведчыць, што вы нешчаслівая жанчына, — уключаецца ў размову крынская пенсіянерка.

Сварку спыняе гучны званок мабільніка варшавянкі.

— Бачыце, гэта ж муж да мяне звоніць. Хоча ведаць, дзе я падзяваюся, — даказвае сваё шчаслівае сужонства ўсхваляваная турыстка.

Маладая мама Іаанна надта не пераймаецца парушэннем гендэрных правоў. На крынскі вернісаж прыйшла з двума сынамі — вучнямі мясцовай пачатковай школы. І мама, і сыны з зацікаўленнем убіралі ўбачанае.

Адвагу мастака ў выяўленні асабістых поглядаў і перакананняў заўважыў таксама гаспадар мерапрыемства прафесар Тарасэвіч. Важнае, што прадстаўленыя ў „Гумарах” сацыяльна-маральныя аналізы застануцца актуальнымі назаўсёды.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Чаромхаўскі аповед (8)

Да афіцэраў ЗКУ жыхары Чаромхі ставіліся з пашанай. Запрашалі іх на святочныя вечарыны ў якасці ганаровых гасцей. Найбольш паважаным лічыўся камандзір Генадзій Казарэз. Строгі, патрабавальны на працы начальнік, душа-чалавек у міжлюдскіх адносінах. У мяне з Генам, як клікалі яго сябры, наладзіліся сціплыя адносіны. Выязджалі мы разам у Мілейчычы на святкаванні Дня перамогі, супольна збіралі грыбы. Гасцяваў я сябру ў сябе дома. У знак прызнання Генадзій выручаў мяне ў патрэбе. Найчасцей у выпадку транспартных паслуг. Калі спатрэбілася мне машына на праезд, дык ніколі не адмаўляў. Таксама як я кампаньёнаў у камандзіра было больш. Самым давераным чарамшанінам у Казарэза, ды не толькі ў яго, але ва ўсіх эрэшты ЗКУшнікаў, быў Янка Шабалоўскі. Вось як успамінае мінулыя будні мой калега.


Янка Шабалоўскі (злева) з Эдзікам Драбышэўскім

Фота з архіва Янкі Шабалоўскага

— З Казарэзам мы зжыліся быццам сіямскія браты. Сустракаліся штодзень. Наша сям'я жыла ў квартале для чыгуначнікаў. Паколькі ў будынку савецкай камендатуры змяшчаліся кватэры адно для трох сем'яў савецкіх афіцэраў і шафёра, дык чацвёртаму афіцэру прызначылі кватэру ў нашым блёку. Такім чынам я першапачаткова пазнаёміўся з капітанам Эдзікам Драбышэўскім...

Памятаю наша першае падарожжа з Казарэзам у Варшаву. Пазнаёміў ён тады мяне са сваім начальнікам, генералам Падзяменным. Пасля гэтай сустрэчы генерал прыязджаў у Чаромху на службовай чорнай «Чайцы». Арганізавалі мы госцю адмысловы пачастунак. Апрача кавы была і чарка мацнейшага напою. У ЗКУшнікаў «працэнтных напояў» — нямецкіх ды савецкіх гарэлак, каньякоў ды спіртнога — было ўдосталь...

Іншым разам, — прадаўжаў аповед Шабалоўскі, — забраў мяне Генадзій у савецкае пасольства ў Варшаву. Ён, канешне, быў у парадным мундзіры, я ў цывільным адзенні. Зачым падаца ў пасольства, наведалі мы генерала. Ён стаў нашым правадніком. Вартаўнік прапусціў нас без пропускаў. Падаліся мы зразу ў пасольскія «кансумы». А там — чаго душа патрабуе! Вопратка, абутак, трыкатажныя вырабы, харчовыя прадукты, розная віду спіртное... Тавары з вітрын манілі не надта высокімі цэнамі. А ўсё прадавалася за польскія злоты. Гэта здавалася мне быць казачным каралеўствам, паколькі ў тадышні час усё ў краіне прадавалася па талонах. Прытым трэба было ў чарзе час траціць. Зрабіў я тады харошую закупку. Іншым разам за пакупкамі паехалі мы ў вайсковую часць у Варшаву-Рэмбертаў. Там праваднікам быў Генадзій Казарэз. У тамашняй часці капітан быў вядомым чалавекам. У мяне пры ім ніхто дакументаў не правяраў. А ў ваенным гарадку таксама ўсяго было ўдосталь. З таго часу я не стаў наведваць чаромхаўскіх крам. Калі нешта спатрэбілася з дэфіцытнага тавару, дык падаваліся мы з Генадзіем у ваенны гарадок у Варшаву-Рэмбертаў. Пасля я і сам ездзіў, калі добра пазнаёміўся з жыхарамі гарадка.

Казарэз па нацыянальнасці быў яўрэем, — канстатаваў мой суразмоўца Янка Шабалоўскі. — У падобны спосаб пазнаёміў ён мяне з дырэктарам Беластоцкай фабрыкі дываноў. Часта мы падаваліся з капітанам у Беласток.

Наш прыяцель быў «дзелавым» мужыком. Купляў у Польшчы дэфіцытныя тавары і адпраўляў у Савецкі Саюз праз пасрэдніцтва начальнікаў эшалонаў або прапаршчыкаў. Казарэз быў членам паляўнічага гуртка ў Чаромсе. Здабытыя ў час палявання звярыныя шкуркі здаваў знаёмаму кушняру ў Орлі. Ды не толькі гэтыя. Купляў таксама шкуркі нутрыі і здаваў у арлянскае атэлье. Адтуль забіраў шкурныя вырабы. Адмысловыя кантакты ЗКУшнікі мелі ў кнігарні ў Бельску-Падляшскім. Савецкія кніжкі ў васьмідзесятыя гады былі напалову таннейшыя ад польскіх. Тады творы савецкіх і міжнародных класікаў у Савецкім Саюзе былі проста недаступнымі звычайнаму чалавеку. У польскіх кнігарнях была магчымасць падпісацца на савецкую літаратуру. І афіцэры пакарысталіся гэтай магчымасцю. Пры такой нагодзе і я пазнаёміўся з загадчыцай бельскай кнігарні Людмілай Семянюк. Але аб гэтым ужо ў наступнай частцы.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

1. віцебская рака, 2. мангольская пустыня, 3. крок, 4. тонкая сухая шчэпка для падпалкі дроў, 5. Ігнацій Лаёла, 6. кіргізская сталіца, 7. вялікі еўрапейскі горад між Одрай і Эльбай, 8. пірэнейская дзяржава.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская паговорка. **(ш)**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |
| | | 1 | | 2 | | |
| 3 | | | 4 | | | |
| | | | | 5 | | |
| | | | 6 | | | |
| 7 | | | | 8 | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Пясняр, Дзвіна, Сарагоса, мелодыя, коўдра, шыла, ухіл, еўра, морква, бура.

Рашэнне: **Адна ліса семярых ваўкоў ашукае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 04.05 — 10.05

**(22.03. — 20.04.)** Набярэш ахвоты на любоўныя гульні. І ніхто перад табою не ўстаіць! Зменішся да непазнавальнасці ў любоўным плане: станеш думаць у катэгорыі „мы”. Электрызуеш сексуальнасцю! Можаш добра зарабіць і дасягнуць у фірме запаветную пазіцыю.

**(21.04. — 21.05.)** Сябры будуць стаяць за табою мурам. Заразяць цябе яны аптымізмам. Дзве першыя дэкады будзеш здарава ажыўлены моцай сонца. Ад 7.05. да 21.05. можаш спадзявацца добрых, вартых зайздрасці падзаработкаў. На працы можаш увесці наватарскія задумы, будзеш узорам. З 9.05. паявіцца напружанні.

**(22.05. — 22.06.)** 4-5.05. некаторыя справы могуць спыніцца ў мёртвай кропцы. Пасля кароткага знаёмства можаш пачаць снаваць нятрапныя любоўныя планы. Дзве першыя дэкады даруй сябе нейкія слабасці. Не занядбаеш абавязкаў, будзеш больш патрабаваць ад сябе чым твой шэф!

**(23.06. — 23.07.)** Чакае цябе нялёгкая размова. Схочацца табе паставіць справы рубам. Пачнеш зноў кантраляваць сітуацыю. Ракі з апошняй дэкады знака выйдуць на просты шлях. З 9.05. нервовасць, непатрэбная спешка. Добры час на дыету.

**(24.07. — 23.08.)** 4-8.05. будзеш у асабліва добрым настроі, выплывеш на шырокія воды, здабудзеш новыя вяршыні, шмат навучышся. Добры час рабіць уражанне на іншых! Выкарыстай гэты час! Будзеш хадзіць як пава ўвесь май, пакажаш што найлепшае. Сонца падкрэсліць тваю сілу, рашучасць і прагу да свабоды. Змагайся з „ужыўкамі”; калі ўява падказвае табе, што штосьці не так са здароўем, збегай да лекара.

**(24.08. — 23.09.)** З пачатку тыдня можаш расчаравацца ў кімсьці блізкім і выпадкам уваліцца ў кабалу. Падазронасць і ахвота кантраляваць спрычыняцца да таго, што ў тваіх адносінах успыхне пару бур. Новыя сяброўствы. Здаровы лад жыцця, больш зоймешся таксама здароўем іншых. З 7.05. аж да 29.05. зоркі прабіваюць табе шлях да лаўраў!

**(24.09. — 23.10.)** Падпісвай дамовы, дагаворвайся з супрацоўнікамі, правядзі шчырую размову з партнёрам; добры час на рандэву. Да 7.05. моцная энергія, рашучасць, агромная трываласць. Без цяжкасці зменіш усё што табе не адпавядае. З кожным днём штораз лепш у фінансах. Будуць нарастаць сумненні адносна тваёй пары. Добра ўсё абдумай. Разлічвай на сябе. Фінансавы пад'ём, але ў другой палове месяца адчуеш на чым стаіш.

**(24.10. — 22.11.)** Каханне адыдзе на другі план. Цяпер найважнейшае для цябе — прафесійнае здзяйсненне. Задбаеш аб сваё цела (увесь май твой арганізм будзе ўражлівы і далікатны, падуладны вірусам, пільнуй асабліва галаву, вочы). Будзеш адкрыўцам і наватарам. Мноства задум, якія станеш ажыццяўляць. Будзеш сапраўдным сябрам, за табою ўвесь месяц будзе круціцца тлум. Твае амбіцыі сягнуць зеніту!

**(23.11. — 22.12.)** 4-8.05. абмінеш усе перашкоды, з-за якіх меў бы вялікія страты. Можаш разлічваць на шчасце і большыя грошы. Дай сабе час, не рабі нічога на сілу. Перад табою добрыя змены і на працы, і ў каханні. Новае дыханне ў сужонствах. Паглыбіш адносіны з пару сябрамі.

**(23.12. — 20.01.)** 4 і 5.05. нервовасць, празмерная спешка, незразумелыя паводзіны. 6-7.05. — найбольш удалы час на любоўныя сустрэчы. Моцная сіла характару, незалежнасць, умеласць дастасавацца да новых сітуацый. Добры момант пачаць тэрапію. Змагайся за сваё на працы і ў фінансах.

**(21.01. — 19.02.)** Вялікія надзеі, вялікія спадзяванні. Ёсць шанцы на новае каханне. Не крытыкуй у пачуццях. Дзве першыя дэкады — веснавы фантастычны настрой, трываласць і фізічнае здароўе. Можаш узяцца за немалыя выклікі, але добра адпачывай, высыпайся. Прафесійныя справы пад кантролем, эфектыўная і спраўная дзейнасць.

**(20.02. — 21.03.)** 4-5.05 пераменлівы настрой, нервовая сітуацыя, ахаладжанне ў адносінах. Магчымая інфекцыя. У першай палове месяца ўсіх парасстаўляеш дома. Запрагнеш змен у хаце. На сур'ёзныя размовы дамаўляйся з 7.05. — будзе шчырая атмасфера і талковы падыход; перамажаш абмежаванні і ацэпліш свой імідж.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Тры палякі, грузін і сабака



Апоўначы, калі Польшча і Літва далучаліся да Еўрасаюза, я гасцявала ў Вільні, па вуліцы Жалезнага Ваўка. Неба сталіцы Літвы рассвятлілася тады тысячамі феерверкаў, а за сцяной кватэры стралялі коркі ад шампанскага. Літоўцы, у адрозненні ад беларусаў Падляшша, ішлі ў Еўропу з надзеяй на сапраўдную незалежнасць.

— Свабода важнейшая за ўсякія грошы, — скажа тады мне адзін пажылы грамадзянін Літвы.

Той дух свабоды ў ноч з 31 красавіка на 1 мая 2004 года быццам прыйшоў непрыкметна, затое на добра падрыхтаваны заранёў грунт. Раніцай літоўская сталіца нагадвала хату пасля вяселля. Жыхары адпачывалі пасля шумнай, жыццярадаснай начной забавы.

Мне самой найбольш спадабалася плаўнае перасячэнне літоўска-польскай мяжы, без чэргаў, коркаў, непатрэбных нерваў.

* * *

Хоць з таго часу мінула дзесяць гадоў, карэнныя жыхары памежных вёсак на польскім баку быццам і не прыкмецілі рэальнага адкрыцця мяжы. І што цікава — нікога спецыяльна не цягне ехаць у Літву.

— Там жа даражэй чым у нас, навошта ехаць! — адкажуць.

Няма таксама ахвоты station пераймаць за парадкамі на літоўскім баку. Першай прычынай тут недахоп мадэрных інвестыцый. Літоўская правінцыя напамінае глыбокія часы сацыялізму. Хто хоча натхняцца такім парадкам?

— Там вяскоўцы яшчэ перамяшчаюцца на фурманках, — адкажуць вам з пачуццём перавагі, — гэта можа цікава турыстам...

З падобнай абыякавасцю да нядаўна гаварылі пра Расію, а больш дакладна пра Калінінградскую вобласць. Часам толькі які стары, які яшчэ нёс у сабе рэха царскай імперыі, з сантыментам казаў: „Пры цары жылося найлепш...", хаця той цар ніколі не меў дачынення да Калінінграда...

І вось у апошні Вялікдзень, гасцюючы на польска-літоўска-расійскім памежжы, я перажыла шок. Ні з таго, ні з сяго тут пачалі хваліць Расію і цвёрдую руку Пуціна!

— Гэтай краінай трэба кіраваць моцнай рукой, — гаварылі з сімпатыяй пра Уладзіміра Уладзіміравіча, — інакш Расія не можа захавацца і існаваць...

Я слухала і не верыла сваім вушам.

* * *

Ад пачутага захацелася з'ездзіць у Літву на Вялікдзень ды праверыць сенсацыйныя інфармацыі на месцы, значыць, на мяжы з Расіяй. Мяжу з Літвой можна перасякаць у любым месцы і на любым транспарце: пешшу, на ровары, на машыне ці на той жа фурманцы.

Вядома, ужо напачатку нас прывітаў стук конскіх капытоў. Па новай, сто разоў лепшай за польскую, асфальтоўцы імчала фурманка з гаспадаром. Хоць краявід памежжа аднолькава маляўнічы і дзікі, на літоўскім баку панавалі нейкі сум і пустэча. І не адчувалася тут свята. Калі і зрэдку мы сустракалі людзей, тыя корпаліся ў зямлі. Адны садзілі ўручную бульбу, іншыя парадкавалі панадворкі. У цэнтры Віштынца, куды дабіраліся мы дваццаць хвілін на машыне, панаваў сонны і не святочны настрой. Непадалёк ад помніка Вітаўту брыгада маладых хлапцоў перакрывала дах гасцініцы. Ад нечага рабіць мы пайшлі ў магазін „Пад лебедзем", дзе апрача прадаўшчыцы не было жывой душы.

— Лаба дзена! — павіталіся мы адзіным нам вядомым літоўскім зваротам.

— Добры дзень! — адказала жанчына.

Яна акуратна размаўляла па-польску і гэта на яе думку было „чымсьці нармальным".

За прадукты мы расплаціліся з дапамогай банкавай карткі, пазбягаючы абмену грошай. Калі мы пакідалі магазін „Пад лебедзем", жанчына запрасіла прыехаць у сезон:

— О, тады ў нас, як у славутай Палангзе, дзень і ноч гуляюць, адпачываюць.

* * *

Віштынец люблю з-за рэпартажаў





Ваньковіча, які дабіраўся сюды на параходзе з Прусіі. У кожным завулку тут адчуваецца подых гісторыі. Ідзеш па рынку і думаеш пра гістарычных кантрабандыстаў, якія сваю нелегальную справу занеслі ў карысць чалавецтва. Мова пра кнігаманшаў — літоўскіх кантрабандыстаў, якія з Прусіі ў Рускую імперыю пераносілі лістоўкі і літаратуру на літоўскай мове. З'ява нарадзілася пасля паўстання 1863-1864 гг. як акт супрацьдзеяння русіфікацыі. Распаўсюд прыдумалі літоўскія святары і ён разросся да неверагодных памераў. Вось толькі ў 1900-1902 гг. царская паліцыя канфіскавала 56 тысяч друкаваных асобнікаў. Займацца кантрабандай літаратуры было настолькі важна як і небяспечна. Кнігаманшаў расстрэльвалі на месцы, катавалі, ссылалі ў Сібір або ў турмы ў Смаленскую або Магілёўскую губерні...

Ніхто з літоўскіх гісторыкаў не сумняваецца ў тым, што кнігаманшы спрычыніліся да ўзнікнення Незалежнай Літвы. 16 сакавіка літоўцы адзначаюць „Дзень кнігаманшаў" (якраз 16 сакавіка 1846 г. нарадзіўся заснавальнік руху Юргіс Беліс). Вынаходлівасць і бясстрашнасць літоўцаў дацанілі ў свеце. Вось у 2004 г. нелегальны рух кнігаманшаў ЮНЕСКА палічыла непаўторнай гістарычнай з'явай, якая не мае аналага ў свеце, і занесла гэты від кантрабанды ў спіс культурнай спадчыны чалавецтва.

* * *

Пахадзіўшы па цэнтры, мы спусціліся ў бакавую вулачку, якая прывяла да возера і літоўска-рускай мяжы. Каля самай мяжы, якую ўяўляў пахілены бляшаны плот, стаяў „гданьскі" дом. На расійскім баку ламаталі адбойныя малаткі, бульдозеры, працавалі краны. З-за бляшанага „муру" вырастаў новы адміністрацыйны будынак і жылы комплекс. Спачатку мы не хацелі паверыць, што так святкуюць Вялікдзень расіяне, якія ў руска-ўкраінскім канфлікце паказваюць сябе абаронцамі праваслаўя.

— Адкуль будзеце? — зачапіў нас тутэмец, які з сябрам выседжвалі на сходах ганка і з сумам спазіралі на Віштынецкае возера, якое, здавалася, цягнулася аж за мяжу далягляду.

— Адкуль ведаеце польскую мову? — спыталі мы.

— Па тэлевізару, — прызнаўся адзін з іх, больш гаваркі і пад мухай. — Там у вас файны фільм ішоў... — і тут ён прывёў свой аўтарскі пераклад: „Trzy Polaki, Gruzin i pies"...

— А што пра вайну думаеце? — спыталі мы ў хлапцоў.

— Гэта далёка, да нас не дойдзе!

— Як далёка? — мы паказалі на будаўнікоў з-за бляшанай мяжы. — Гэта ж пад носам.

— А гэта нашы расіяне, яны нармальныя. Значыць, кантрабандысты. Салярку прывязуць, папяросы, дзяўчат у сезоне наедзе...

Тут мы пачулі нешта больш пра турыстычны зрух у сезоне, хоць на погляд нашых субяседнікаў ён не раўнаўся з Палангай. Адно, што іх спалучала, гэта госці з Расіі.

— Прыязджаюць да нас, бо тут Еўропа, — адказаў без пераканання хлапец. Сам ён працаваў у Англіі, дык ведае як выглядае Еўропа, Паланга і Віштынец.

Пасля вяртання з Літвы мы даведаліся, што польска-расійская любоў на памежжы таксама замацоўваецца па прычыне кантрабандыстаў. Мы пілі набытае афіцыйным шляхам літоўскае піва і перажоўвалі словы прыгодных субяседнікаў з-за мяжы. Яны здзіўляліся, што палякі гавораць толькі па-свойму, а яны адразу на трох або чатырох мовах. Гэта і была сапраўдная мяжа, якая, нягледзячы на адсутнасць перашкод у перасяканні мяжы, не праяўляе да сябе цікавасці і інтарэсу.

Ганна КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960